● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

10 красавіка 1996 г. серада, № 96 (22899)



# ЗВЯЗДА

## СВЕТ ПАВІНЕН ПАМЯТАЦЬ АБ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ КАТАСТРОФЕ

«Мы павінны яшчэ раз нагадаць свету аб чарнобыльскай катастрофе. Гэту трагедыю нельга забыць», — так заявіў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, вылятаючы 8 красавіка ў Вену для ўдзелу ў міжнароднай канферэнцыі «Дзесяцігоддзе пасля Чарнобыля: ацэнка вынікаў аварыі».

На думку кіраўніка дзяржавы, праблемы, звязаныя з Чарнобылем, — гэта праблемы не адной дзяржавы, якая вымушана па тых або іншых прычынах іх вырашаць. І свет не павінен забываць аб такіх трагедыях для таго, каб яны не паўтараліся.

Тым не менш, паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, яго рабочы візіт у сталіцу Аўстрыі не абмяжуецца толькі выступленнем на міжнародным форуме. Кіраўнік дзяржавы і члены афіцыйнай дэлегацыі, у састаў якой уваходзяць кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, міністр знешніх эканамічных сувязей Міхаіл Марыніч, віцэ-прэм'ер Леанід Сініцын, першы намеснік міністра замежных спраў Валерый Цапкала і іншыя, маюць намер правесці сустрэчы з кіраўнікамі буйнейшых аўстрыйскіх фірмаў, што ўжо знайшлі прымяненне сваім капіталам на беларускім рынку, і тымі інвестарамі, якія збіраюцца працаваць у Беларусі. Акрамя таго, адбудуцца сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі з генеральным дырэктарам Міжнароднага агенцтва па атамнай энергіі Хансам Бліксам і федэральным канцлерам Аўстрыйскай Рэспублікі Францам Враніцкім.

Пачатак рабочага візіту кіраўніка дзяржавы быў, бадай, для ўсіх членаў дэлегацыі нечакана «нерабочым». Больш за гадзіну Прэзідэнт прысвяціў агляду культурнага цэнтра гэтай еўрапейскай сталіцы. Славутая Венская опера, палацы і рэзідэнцыі манаршых асоб, помнікі палітыкам і выдатным дзеячам мастацтва, якія адыгралі асаблівую ролю ў гісторыі не адной дзяржавы, убачылі ў першы дзень свайго знаходжання члены беларускай дэлегацыі.

А позна вечарам гэтага ж дня Прэзідэнт Беларусі правёў перагаворы з кіраўнікамі тых аўстрыйскіх фірмаў, што ўжо даўно актыўна асвойваюць беларускі рынак. Аўстрыя, як вядома, з'яўляючыся адной з найбольш актыўных удзельніц працэсу мадэрнізацыі эканомікі ў нашай рэспубліцы, выдзеліла некалькі гадоў назад каля 500 мільёнаў долараў на рэалізацыю сумесных праектаў. На праведзеных 8 красавіка сустрэчах ішла канкрэтная размова аб рэканструкцыі сталеплавільнага цэха ў Жлобіне і ўчастка па вытворчасці араматычных вуглевадародаў Наваполацкага нафтаперапрацоўчага завода, аснашчэнні бальніцы металургічнага завода ў Жлобіне і аб удзеле аўстрыйскіх інвестараў у мадэрнізацыі Светлагорскага цэлюлозна-папяровага камбіната. Абмяркоўваліся і плануемыя пастаўкі ў рамках крэдытнай лініі абсталявання па вытворчасці рэагентаў для газааналізатараў крыві. Але галоўнае цяпер, на думку нашых спецыялістаў, «зняць» даўгі па ранейшых праектах. Дарэчы, крэдытная лінія была выдзелена 3,5 года таму тэрмінам на пяць гадоў. Таму ў час праведзеных у той жа дзень сустрэч ішла размова аб тым, каб у выпадку неабходнасці тэрмін крэдытнай лініі можна было прадоўжыць.

9 красавіка ў кіраўніка беларускай дзяржавы быў не менш насычаны дзень. Ён пачаўся з гутаркі з генеральным дырэктарам МАГАТЭ Х. Бліксам у аўстрыйскім міжнародным цэнтры «Аўстрыя Цэнтр». Потым Аляксандр Лукашэнка выступіў на міжнароднай канферэнцыі «Дзесяцігоддзе пасля Чарнобыля: ацэнка вынікаў аварыі». Пасля гэтага, згодна з планам, — сустрэча кіраўніка беларускай дзяржавы з федэральным канцлерам Аўстрыйскай Рэспублікі Ф. Враніцкім. Прадмет іх перагавораў — пытанні аб прыцягненні аўстрыйскіх фірмаў да стварэння свабоднай эканамічнай зоны «Брэст», ратыфікацыі Пагаднення аб партнёрстве і супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і Еўрапейскім саюзам, а таксама пытанні, звязаныя з уступленнем Беларусі ў Савет Еўропы, яе ўдзелам у праграме «Партнёрства дзеля міру», расшырэннем НАТО на Усход. Дарэчы, пазіцыя Аўстрыі ў гэтых адносінах даволі цікавая для беларускай дзяржавы, паколькі гэта краіна, згодна са сваёй Канстытуцыяй, з'яўляецца «няблокавай дзяржавай і даволі чуйна адносіцца да ўсякіх спроб змянення балансу сіл на Еўрапейскім кантыненце.

Закончыўся візіт Прэзідэнта Беларусі ў Аўстрыю сустрэчай з прадстаўнікамі дзелавых колаў гэтай краіны ў Гаспадарчай палаце.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ, БЕЛТА.**





## БЕЛАРУСКІ НАРОД НЯСЕ АСНОЎНЫ ЦЯЖАР ВЫНІКАЎ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ГЛАБАЛЬНАЙ АВАРЫІ

**Выступленне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі 9 красавіка ў Вене на Міжнароднай канферэнцыі «Дзесяцігоддзе пасля Чарнобыля: ацэнка вынікаў аварыі»**

Паважаная пані старшыня Анжэла Меркель!

Паважаныя ўдзельнікі канферэнцыі!

Дамы і панове!

Я глыбока ўдзячны арганізатарам канферэнцыі за запрашэнне, за магчымасць выступіць на такім прадстаўнічым форуме перад вучонымі, дзяржаўнымі і грамадскімі дзеячамі, прадстаўнікамі міжнародных арганізацый.

Запрашэнне на канферэнцыю і ўдзел у ёй прадстаўнічай беларускай дэлегацыі — пераканаўчае сведчанне таго, што сусветнае супольніцтва ўсведамляе: беларускі народ нясе асноўны цяжар вынікаў чарнобыльскай глабальнай аварыі.

Згодна з міжнароднымі ацэнкамі менавіта на Беларусь выпала большая частка радыеактыўных ападкаў, кожны пяты беларус адчуў на сабе вынікі чарнобыльскай аварыі.

Вось чаму для беларускага народа чарнобыльская трагедыя сапраўды паставіла пытанне аб **выжыванні** нацыі.

Пасля распаду Савецкага Саюза мы засталіся сам-насам з гэтай бядой. Вынікі катастрофы супалі з эканамічным крызісам, разбурэннем ранейшых дзяржаўных і палітычных структур. Таму нам прыходзіцца вырашаць мноства сацыяльна-эканамічных праблем, будаваць маладую беларускую дзяржаву і пры гэтым рабіць усё для таго, каб хоць неяк мінімізаваць вынікі чарнобыльскай катастрофы. Улічваючы яе глабальны характар, адной краіне зрабіць гэта крайне цяжка.

Тым больш, што чарнобыльская трагедыя адбылася на тэрыторыі суседняй дружалюбнай нам незалежнай дзяржавы. Мы не будавалі гэту атамную станцыю, не абслугоўвалі яе і не мелі ўплыву на працэсы, што там адбываліся. У псіхалагічным плане народу Беларусі цяжка прымірыцца з такой цяжкай платай за чужыя памылкі. У выніку мы аказаліся як бы без віны вінаватымі.

У Кнізе Кніг — Бібліі напісана «І ўпала з неба вялікая зорка... на трэцюю частку рэк... Імя гэтай зорцы палын. І трэцяя частка вод зрабілася палыном, і многія з людзей памерлі ад вод».

У нас у Беларусі чарнобылем называюць палыновую горкую траву. Само слова «чарнобыль» з'яўляецца двухсастаўным: чорная быль.

Для народаў Беларусі, Расіі, Украіны, ды і для народаў усяго свету гэта сапраўды чорная быль, сумная рэальнасць. Гэта той трагічны ўрок, які як ніколі зблізіў усіх нас — жыхароў Зямлі — і прымусіў задумацца: як нам выжыць у атамны век? што будзе з намі ў эпоху пасля Чарнобыля? Ці дастаткова ў нас ведаў і сіл, каб у далейшым прадухіліць падобныя глабальныя катастрофы?

Таму палітыкі, вучоныя, грамадскія дзеячы розных краін свету павінны зрабіць усё магчымае, каб, выкарыстоўваючы трагічны вопыт Чарнобыля, не дапусціць больш яго паўтарэння.

Упэўнены — пры ўзаемаразуменні і ўзаемадапамозе мы зможам гэта зрабіць.

Удзельнікі канферэнцыі, вучоныя розных краін свету павінны ў поўнай меры разумець тую сітуацыю, у якой знаходзіцца цяпер Беларусь.

Напэўна, мне не абысціся без статыстычных даных. Але статыстыка гаворыць сухой канцылярскай мовай. Спадзяюся, што вынікі чарнобыльскай катастрофы, аб якіх я буду гаварыць, будуць успрымацца вамі не толькі халодным аналітычным розумам, але і сэрцам.

Аблятаючы тэрыторыі, абгароджаныя калючым дротам, з пакінутымі вёскамі, пасёлкамі, гарадкамі, з пакінутымі пладовымі садамі, што як і заўсёды зацвітуць гэтай вясной, я з болем адчуваю, якая вялікая бяда прыйшла на нашу цудоўную зямлю.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## ЦІ СТАЛІ МЫ БАГАЦЕЙШЫМІ?

**Паводле даных Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь, грашовыя расходы і зберажэнні насельніцтва ў студзені-лютым 1996 года ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года павялічыліся ў 2,5 раза і склалі 15.516 мільярдаў рублёў. Расходы насельніцтва на пакупку тавараў і аплату паслуг склалі 11.129 мільярдаў рублёў, а абавязковыя плацяжы і добраахвотныя ўзносы — 97 млрд.**

Значна павялічылася (у 6,3 раза) у параўнанні з мінулым годам выкарыстанне грашовых сродкаў на ўклады, а таксама на пакупку валюты і каштоўных папер. На гэтыя аперацыі выкарыстоўваецца каля 25 працэнтаў усіх грашовых даходаў насельніцтва. Як падлічылі ў Мінстаце, сярэднямесячная заработная плата работнікаў у лютым склала 980 тыс. рублёў — гэта значыць вырасла за год у два з паловай разы. А ў параўнанні са студзенем яна павялічылася на 3 працэнты. Няўжо мы і на самай справе багацеем?

**Сяргей КУРКАЧ.**

## ДЭЛЕГАЦЫЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСІ АДБЫЛА Ў МАСКВУ

**10—11 красавіка ў Маскве праходзіць афіцыйны візіт дэлегацыі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь на чале з С. Шарэцкім**

Па запрашэнню Старшыні Дзярждумы Расійскай Федэрацыі Г. Селязнёва сёння ў сталіцу Расіі прыбыла дэлегацыя беларускіх парламентарыяў, у састаў якой уваходзяць Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, лідэр фракцыі камуністаў Сяргей Калякін, старшыня Камісіі ВС па міжнародных справах П. Краўчанка, старшыня Камісіі па заканадаўству Р. Пракаповіч, старшыня Камісіі па аграрных пытаннях і сацыяльнаму развіццю вёскі Г. Усюкевіч, старшыня Камісіі па эканамічнай палітыцы і рэформах В. Шлындзікаў, старшыня падкамісіі па справах СНД А. Козыр.

У праграме візіту прадугледжваецца сустрэча са Старшынёй Дзярждумы Расіі Г. Селязнёвым і выступленне С. Шарэцкага на пленарным пасяджэнні Дзяржаўнай думы; сустрэчы са Старшынёй Савета Федэрацыі Расіі Я. Строевым, міністрам замежных спраў Расійскай Федэрацыі Я. Прымаковым, з дэпутацкай групай Дзяржлумы па сувязях з Беларуссю,

**(Заканчэнне на 7-й стар.)**





## ХТО ЗГУБІЎ СЕМ ТОН ЦУКРУ?

У лесе, у раёне в. Першамайскае, у якіх-небудзь 300 метрах ад тэрыторыі Літвы, смаргонскія пamежнікі знайшлі аўтамабіль «ЗІЛ-130» з літоўскімі нумарамі, тэхнічна спраўны, але без гаспадара. У кузаве грузавіка аказалася амаль 7 тон цукру. Гаспадары грузу, якіх памежнікі цярпліва чакалі на працягу гадзіны, так і не з'явіліся.

**Уладзімір НЕСЦЯРОВІЧ, прэс-цэнтр Пагранічных войскаў РБ.**

# БЕЛАРУСКІ НАРОД НЯСЕ АСНОЎНЫ ЦЯЖАР ВЫНІКАЎ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ГЛАБАЛЬНАЙ АВАРЫІ

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

У пачатковы перыяд аварыі значныя дозы апраменьвання атрымала вялікая частка насельніцтва рэспублікі за кошт радыеактыўнага ёду і іншых кароткажывучых ізатопаў.

Глабальная катастрофа вывела з гаспадарчага выкарыстання звыш шасці тысяч квадратных кіламетраў нашай тэрыторыі, у тым ліку каля трох тысяч квадратных кіламетраў урадлівых сельскагаспадарчых угоддзяў.

Апусцелі шматлікія беларускія вёскі. Звыш 400 населеных пунктаў засталіся без жыхароў, закрылася звыш 600 школ і дзіцячых садоў. У сціслыя тэрміны людзі былі вымушаны развітацца з роднымі мясцінамі, пакінуць магілы сваіх продкаў і ўладкоўваць сваё жыццё на новых месцах.

На забруджаных тэрыторыях прыйшлося закрыць каля 300 аб'ектаў народнай гаспадаркі, 95 бальніц, 550 прадпрыемстваў гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання. Спынілі работу 54 буйныя сельскагаспадарчыя аб'яднанні.

У выніку катастрофы была адселена 131 тысяча чалавек, для якіх мы ў сціслыя тэрміны літаральна ў чыстым полі пабудавалі жыллё, аб'екты сацыяльнай інфраструктуры, стварылі рабочыя месцы.

Амаль 2 млн. чалавек, у тым ліку 484 тыс. дзяцей і падлеткаў да 17 гадоў, вымушана працягваюць жыць у больш чым трох тысячах населеных пунктаў, размешчаных на забруджаных тэрыторыях. Такое жыццё людзей звязана з пастаянным стрэсам, устойлівым павышэннем захворванняў, узнікненнем сацыяльна-псіхалагічных і эканамічных праблем.

Вялікую трывогу выклікае павелічэнне паталогіі шчытападобнай залозы, асабліва ў дзяцей.

Трывожыць і стан здароўя грамадзян, якія працавалі ў 1986-1987 гг. на ліквідацыі аварыі побач з разбураным рэактарам. А такіх у нас звыш 110 тысяч чалавек.

Паводле самых сціплых ацэнак эканамічны ўрон, нанесены чарнобыльскай аварыяй, складае 32 гадавыя бюджэты рэспублікі, або 235 млрд. долараў ЗША. Мы штогод выдзяляем на гэтыя мэты 20—25 працэнтаў з дзяржбюджэту.

Хоць з часу аварыі прайшло ўжо 10 гадоў, найбольш забруджаныя рэгіёны па-ранейшаму функцыянуюць ва ўмовах надзвычайнага рэжыму.

У гэтым я пераканаўся ў ходзе неаднаразовых паездак, сустрэч з людзьмі ў раёнах, што пацярпелі ад вынікаў Чарнобыля.

У гэтых месцах жыхары звязваюць свой лёс з роднымі гарадамі і вёскамі, большасць з іх не збіраецца іх пакідаць. Нашым людзям і ў гэтых няпростых сацыяльных, дэмаграфічных і псіхалагічных умовах удаецца вырабляць якасную, экалагічна чыстую прадукцыю, па-новаму наладжваць сваё жыццё.

Гэта дае надзею, што пацярпеўшыя тэрыторыі пры мэтанакіраванай дзяржаўнай падтрымцы могуць быць вернуты да паўнацэннага жыцця. У гэтым напрамку мы супрацоўнічаем з СААЗ, МАГАТЭ, Еўрапейскай Камісіяй і іншымі міжнароднымі арганізацыямі.

Нашы вучоныя і спецыялісты пастаянна вывучаюць сітуацыю ў забруджаных раёнах.

На аснове атрыманых навуковых даных беларускі ўрад распрацаваў новую Дзяржаўную праграму, якая грунтуецца на сучасным разуменні розных аспектаў вырашэння чарнобыльскіх праблем, у першую чаргу неабходнасці рэабілітацыі пацярпеўшых рэгіёнаў.

Безумоўна, у вырашэнні такіх доўгатэрміновых задач нам наўрад ці ўдасца абысціся без дакладна вызначаных навуковых арыенціраў, без дапамогі сусветнай навуковай грамадскасці.

Я заклікаю вас да пошуку новых эфектыўных шляхоў і метадаў па вяртанню да паўнацэннага жыцця пацярпеўшых раёнаў. Нам неабходна канкрэтная мэтавая фінансавая, тэхналагічная і метадалагічная падтрымка з боку міжнароднага супольніцтва.

Неабходна, каб насельніцтва пацярпеўшых раёнаў ужо сёння адчула рэальную аддачу ад выконваемых міжнародных праектаў. Нам важна ясна ўяўляць, як у максімальна сціслыя тэрміны і з найменшымі затратамі будуць вырашацца чарнобыльскія праблемы.

Перакананы, што на гэтым этапе неабходна вызначыць найбольш рацыянальнае прыкладанне міжнародных інтэлектуальных намаганняў і матэрыяльных сродкаў.

Як Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь я быў бы ўдзячны спецыялістам, якія тут сабраліся, за ўсебаковае абмеркаванне гэтага пытання на гэтай канферэнцыі. Калі мы ўпусцім час, не зможам стварыць прымальныя ўмовы для жыцця ў гэтых раёнах, то яны будуць асуджаны на сацыяльную, дэмаграфічную і эканамічную дэградацыю.

Я ведаю, што разам з вучонымі ў гэтай зале прысутнічаюць многія ўплывовыя грамадскія дзеячы, буйныя палітыкі і фінансісты, вядомыя журналісты — адным словам, усе тыя, хто актыўна фарміруе грамадскую думку і робіць уплыў на прыняцце рашэнняў у сваіх краінах і міжнародных арганізацыях.

Мне вядома, што стратэгія дзеянняў кіраўніцтва Беларусі па пераадоленню вынікаў чарнобыльскай катастрофы знаходзіць разуменне ў найбольш аўтарытэтных міжнародных арганізацыях. У гэтым я пераканаўся, прымаючы ўдзел у рабоце Першай міжнароднай канферэнцыі па чарнобыльскіх праблемах, што нядаўна адбылася ў сталіцы Беларусі — горадзе Мінску.

Упэўнены, што і вы, удзельнікі цяперашняй канферэнцыі, таксама падтрымаеце Рэспубліку Беларусь, данесяце да сусветнай грамадскасці нашы праблемы, акажаце неабходную падтрымку.

На пераадоленне вынікаў чарнобыльскай катастрофы рэспубліка траціць значную частку сваіх інтэлектуальных рэсурсаў. За апошнія 10 гадоў сфарміравана сетка спецыялізаваных навукова-даследчых інстытутаў, падрыхтаваны кваліфікаваныя нацыянальныя навуковыя кадры.

Праводзяцца шырокамаштабныя даследаванні ў галіне радыяцыйнай медыцыны, генетыкі, радыебіялогіі, сельскагаспадарчай радыялогіі, вытворчасці спецыяльных прэпаратаў і харчовых дабавак. Актыўна даследуюцца праблемы сацыяльна-псіхалагічнай і эканамічнай рэабілітацыі.

У Беларусі ў перыяд чарнобыльскага дзесяцігоддзя набыты унікальны вопыт аб выніках радыяцыйнага уздзеяння на чалавека і навакольнае асяроддзе. Ёсць фундаментальны навуковы матэрыял па зніжэнню адмоўных эфектаў радыяцыйнага ўздзеяння.

Мы бачым праяўленне інтарэсу вучоных многіх краін, міжнародных навуковых супольніцтваў і арганізацый да нашых навуковых распрацовак.

У гэтай сферы мы зыходзім з прынцыпаў свабоднага і гарантаванага доступу да інфармацыі аб выніках катастрофы.

Мы ствараем неабходныя ўмовы для ажыццяўлення міжнародных даследчых праектаў на нашай тэрыторыі. Думаю, вы згодзіцеся, што вынікі гэтых даследаванняў павінны ў поўным аб'ёме прадастаўляцца нашай рэспубліцы і працаваць на справу пераадолення вынікаў катастрофы.

Праводзячы сумесную работу з вучонымі Заходняй Еўропы, іншымі краінамі свету, Беларусь удзяляе чарнобыльскім пытанням значную ўвагу і ў рамках СНД. Асабліва на аснове двухбаковага супрацоўніцтва.

У час падпісання 2 красавіка Саюзнага дагавора паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй вынікі гэтай катастрофы таксама абмяркоўваліся на ўзроўні кіраўнікоў дзяржаў.

Мы разумеем, што чарнобыльская аварыя, вынікі якой класіфікуюцца як «нацыянальнае экалагічнае бедства» і, больш таго, як «глабальная катастрофа», не можа разглядацца толькі з вузка прафесіянальнага пункту гледжання радыялогіі і радыяцыйнай бяспекі.

Трагічныя вынікі такога маштабу, як аварыя на Чарнобыльскай атамнай станцыі, карэнным чынам закранаюць усе сферы жыццядзейнасці не толькі пацярпеўшых рэгіёнаў Беларусі, многіх еўрапейскіх дзяржаў, але і ўсяго свету.

Генеральная Асамблея Арганізацыі Аб'яднаных Нацый ацаніла чарнобыльскую трагедыю як глабальную радыеэкалагічную катастрофу. ААН праводзіць работу па каардынацыі, ініцыіраванню і абмеркаванню пытанняў, звязаных з чарнобыльскай праблематыкай. Гэта для нас вельмі важна. Запэўніваю вас, што дзейнасць гэтай аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі, яе ініцыятывы, звязаныя з аказаннем дапамогі дзяржавам, якія пацярпелі ад чарнобыльскай трагедыі, па заслугах ацэньваюцца Рэспублікай Беларусь.

Разам з тым, я лічу неабходным працяг пошуку новых стратэгічных напрамкаў у галіне міжнароднага чарнобыльскага супрацоўніцтва.

У сувязі з гэтым было б мэтазгодным стварыць адзіны навуковы міждзяржаўны цэнтр па чарнобыльскіх праблемах. Ён аб'ядноўваў бы намаганні як нашых, так і замежных вучоных, павышаў эфектыўнасць іх работы і супрацоўніцтва, аказваў дапамогу па стварэнню ў пацярпеўшых раёнах доўгачасных навуковых калектываў з пастаяннай тэхнічнай базай.

Пры гэтым было б лагічным, каб фінансаванне і нашых, і замежных чарнобыльскіх праектаў праходзіла на роўных узаемапрымальных умовах.

Я таксама прапаноўваю заснаваць Фонд Абароны Планеты, які б змог акумуліраваць частку многамільённых даходаў, што атрымліваюць карпарацыі атамнага машынабудавання і энергетыкі, каб гэтыя сродкі ішлі на ліквідацыю вынікаў ядзерных катастроф і ажыццяўлення экалагічных праграм.

Мы лічым актуальным і вырашэнне праблемы, звязанай з адказнасцю дзяржаў за нанясенне ядзернага ўрону іншым краінам і стварэнне міжнародна-прававой базы, якая канкрэтна агаворвае пытанні адпаведных гарантый і кампенсацый.

Наколькі мне вядома, МАГАТЭ ўжо робіць канкрэтныя крокі ў гэтым напрамку. Мы вітаем гэта і заклікаем да хутчэйшай распрацоўкі такога міжнароднага дакумента.

Улічваючы значнасць гэтага форуму, мне здаецца, што мы, вучоныя і палітыкі, маглі б разгледзець і пытанні забеспячэння ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага і экалагічнага развіцця Рэспублікі Беларусь — краіны з пераходнай эканомікай, якая знаходзіцца ў экстрэмальных умовах з-за вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

Ужо 10 гадоў сусветнае супольніцтва паэтапна спасцігае і яшчэ доўгія гады будзе вымушана засвойваць горкія ўрокі адной з найбольш трагічных падзей XX стагоддзя, калі тварэнне рук чалавечых, створанае на карысць, выйшла з-пад кантролю і абпаліла нашу зямлю небывалым радыяцыйным смерчам.

Тым, хто непасрэдна не сутыкнуўся з радыяцыйнай бядой, можа здацца, што праблема Чарнобыля страціла сваю вастрыню, сваю актуальнасць. Але не для народаў Беларусі, Расіі, Украіны.

Мы ніколі не пагодзімся з заведама заніжанымі ацэнкамі вынікаў катастрофы, што час ад часу выказваюцца некаторымі прадстаўнікамі міжнародных арганізацый.

Для нас гэта бяда мае ярка выражаны пачатак, але не мае, на жаль, пакуль бачнага канца.

Нам яшчэ доўга, на працягу жыцця не аднаго пакалення, прыйдзецца ўносіць вельмі істотную «чарнобыльскую папраўку» ва ўсе сацыяльныя і эканамічныя праграмы.

І тым не менш страшэнныя ўрокі, горкі вопыт чарнобыльскай катастрофы — не толькі пакуты Беларусі, гэта боль усяго чалавецтва. Новыя навуковыя веды аб гэтым — не толькі наш трагічны вопыт. Перакананы, што ён таксама патрэбны ўсім людзям планеты, як і Беларусі неабходна падтрымка і садзейнічанне сусветнага супольніцтва ў забеспячэнні здаровай будучыні сённяшняга і наступных пакаленняў.

Беларусы ж — той народ, які ніколі не помніў зла і заўсёды помніў аб удзячнасці. Бо, як гаварыла цудоўная аўстрыйская пісьменніца Марыя Эбнер-Эшэнбах: «Мы ні за што так не бываем удзячныя, як за ўдзячнасць».

Я спадзяюся, што работа канферэнцыі і ваша навуковая дзейнасць стануць важкім укладам у пераадоленне вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

Шчыра жадаю Вам поспехаў і плённай работы!

Дзякуй за ўвагу!

## ЧАРНОБЫЛЬСКУЮ БЯДУ ПЕРААДОЛЬВАЦЬ РАЗАМ

**Тое, што ўбачылі і пачулі ўдзельнікі рабочай паездкі міжпарламенцкай групы дзяржаў — удзельніц СНД аб праблемах чарнобыльскай бяды непасрэдна на Гомельшчыне, якая найбольш пацярпела ад яе, уразіла іх да глыбіні душы. На самай справе, тут «чыстым» ад радыяцыйнага забруджвання застаўся ўсяго адзін раён, а з 1.600 тысяч жыхароў вобласці 1.400 тысяч падвергліся апраменьванню «мірнага» атама — адны — у большай ступені, другія — у меншай. А гэта — несціханы боль, які не забываецца гэтак жа, як, скажам, жыццё ў прыфрантавой паласе.**



Да такой думкі парламентарыі, вучоныя, эксперты з Беларусі, Украіны, Расіі, Казахстана і Малдовы прыйшлі, калі пасля наведвання Чарнобыльскай АЭС прыехалі ў Брагінскі раён, дзе ў пэўнай меры «здзічэлымі», бязлюднымі аказаліся дзесяткі вёсак, а ў асобныя з іх людзі вярнуліся зноў насуперак забароне афіцыйных уладаў, бо жыць тут небяспечна, але самасёлы цвёрда стаяць на сваім: нікуды мы адсюль не паедзем. Праблем на Брагіншчыне, дарэчы, як і яшчэ ў некалькіх раёнах вобласці (Хойніцкім, Нараўлянскім, Веткаўскім, Чачэрскім, Кармянскім і інш.) хоць адбаўляй: і ў пытаннях аховы здароўя, і ў харчовым забеспячэнні, і ў навучанні дзяцей (не хапае настаўнікаў па асобных прадметах), і ў працаўладкаванні і г. д.

— Так, пытанняў там у людзей было намнога больш, чым у нас адказаў на іх, — зазначыў на сустрэчы ў Гомелі з кіраўнікамі трох абласцей — Гомельшчыны, Магілёўшчыны і Брэстчыны — і шэрагу «чарнобыльскіх» раёнаў Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі. — Але на фоне сумных лічбаў і фактаў, якія былі прыведзены насельніцтвам раёна, была і адна прыемная: у Брагіне сёлета нарадзіліся пяцьдзесят чатыры хлопчыкі і дзяўчынкі.

Жыццё працягваецца, жыццё павінна працягвацца, нягледзячы на ўсе яго складанасці, звязаныя з чарнобыльскай бядой і яе вынікамі. Але, каб зрабіць яго больш дастойным, трэба аб'яднаць намаганні трох братніх славянскіх народаў, якія і пацярпелі ад яе ў найбольшай ступені. Што гэта стала суровай неабходнасцю, у Гомелі гаварылі ў сваіх выступленнях і Сямён Шарэцкі, і міністр па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС Іван Кенік, і намеснік старшыні Камітэта Савета Федэрацыі Федэ-

**(Заканчэнне на 7-й стар.)**

**Уладзімір РУСАКЕВІЧ:**

## «Неабходна дабіцца, каб за мяжой разглядалі Беларусь як надзейнага і выгаднага партнёра»

***З віцэ-прэм'ерам урада рэспублікі Уладзімірам Русакевічам гутарыць карэспандэнт «Інтэрфакса».***

**— Уладзімір Васільевіч! Кабінет Міністраў прыняў рашэнне аб утварэнні Міжведамаснай камісіі па распрацоўцы і каардынацыі выканання дзяржаўнай праграмы знешнепалітычнай інфармацыі і прапаганды на перыяд да 2000 года. Раскажыце, калі ласка, пра мэты стварэння гэтай камісіі.**

— Мэта стварэння камісіі адна — павысіць аўтарытэт Беларусі на міжнароднай арэне. Неабходна дабіцца, каб у дзяржавах блізкага, далёкага і вельмі далёкага замежжа разглядалі нашу рэспубліку як надзейнага і выгаднага партнёра ў сістэме сусветных гаспадарчых сувязей. Гэтага патрабуе час. Працэс інтэграцыі Беларусі ў еўрапейскае і сусветнае супольніцтва, яе прасоўванне па шляху дэмакратычных палітычных і эканамічных рэформаў выклікае да рэспублікі ўсё большую цікавасць з боку многіх краін, міжнародных і грамадскіх арганізацый.

У гэтых умовах Прэзідэнт рэспублікі і паставіў перад урадам задачу па стварэнню адзінай, цэласнай і пастаянна дзеючай сістэмы знешнепалітычнай і знешнеэканамічнай прапаганды рэспублікі. Нашы партнёры па міжнароднаму супрацоўніцтву павінны, што называецца, з першых вуснаў ведаць інфармацыю пра міралюбівыя мэты знешняй палітыкі Беларусі. Тым самым можна будзе абараніць рэспубліку, яе народ, кіраўніка дзяржавы і ўрад ад несправядлівай крытыкі і нападак, матываваных недастатковасцю інфармацыі ці злоснымі намерамі, што часам маюць месца.

Узяць, напрыклад, нашу палітыку эканамічнай інтэграцыі з Расіяй. Яна ўспрымаецца многімі апанентамі як пагроза дзяржаўнасці Беларусі. Адсюль і пастаянна растучая крытыка Прэзідэнта за яго «прарасійскія» настроі, а таксама спроба знешнепалітычнай ізаляцыі рэспублікі і стрыманыя адносіны да заключэння разлічаных на працяглы перыяд эфектыўных гандлёва-эканамічных пагадненняў, аб чым кіраўнік дзяржавы нядаўна заявіў на пашыраным пасяджэнні калегіі Міністэрства замежных спраў.



Выступаючы ў знешнепалітычным ведамстве, А. Лукашэнка заявіў, што чакае ад МЗС актыўнай знешнепалітычнай дзейнасці па прасоўванню інтарэсаў рэспублікі. На думку кіраўніка дзяржавы, Беларусь у знешняй палітыцы павінна ісці па шляху яе актывізацыі, прагматызацыі, збалансаванасці знешнепалітычнага курсу, яго арыентацыі на абарону нацыянальных, і перш за ўсё эканамічных, інтарэсаў краіны. Прэзідэнт лічыць, што ў сітуацыі, якая склалася, Міністэрству замежных спраў неабходна ўзяць на сябе функцыі каардынацыі, кантролю і ацэнкі эфектыўнасці ўсіх нашых знешнепалітычных, знешнеэканамічных дзеянняў, суаднясення іх з рэальнымі інтарэсамі краіны. Аднак аднаму ведамству, нават такому, як МЗС, гэта яўна не пад сілу. У сувязі з чым А. Лукашэнка і прапанаваў падумаць наконт мэтазгоднасці стварэння пры Прэзідэнце Савета па знешняй палітыцы, а таксама наконт распрацоўкі дзяржаўнай праграмы знешняй палітычнай прапаганды. У знешнепалітычнай прапагандзе нам хочацца дабіцца сітуацыі, пры якой бы мы растлумачвалі свае пазіцыі па пытаннях, што цікавяць замежных партнёраў, а не апраўдваліся, абаранялі б выказаныя Беларуссю пазіцыі, а не спяшаліся з прабачэннямі.

Спадзяюся, што такім чынам нам удасца павысіць аўтарытэт Беларусі на міжнароднай арэне, стварыць пазітыўныя адносіны да яе як да

**(Заканчэнне на 7-й стар.)**

# КІРМАШ



## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

**№ 14 (33)**



| Назва | Цана | Арганізацыя | Тэлефон |
|---|---|---|---|
| **ДЛЯ ФЕРМЕРА І ДАЧНІКА** | | | |
| Міні-трактар МТЗ-082 | Дагаворная | Арганізацыя | 76-85-85 |
| Матаблокі МТЗ | Дагаворная | Арганізацыя | 76-85-85 |
| Матакультыватары «Крот» з камплектам с/г прылад | Дагаворная | Арганізацыя | 76-85-85 |
| Камплекты с/г прылад да матаблокаў МТЗ | Дагаворная | Арганізацыя | 76-85-85 |
| Бульбакапалкі да матаблокаў МТЗ | Дагаворная | Арганізацыя | 76-85-85 |
| Кормазапарнікі, зернедрабілкі і інш. с/г абсталяванне | Дагаворная | Арганізацыя | (0172) 25-85-62 |
| **ТУРЫЗМ І АДПАЧЫНАК** | | | |
| Егіпет (АВІА, Боінг) гатэль 4-5 зорак (8—15 дзён) | ад 505$ | ТэхнаСтар | (0172) 39-47-14 |



*Віншуем з днём нараджэння ЛАГУН Яўгена Мікалаевіча. Жадаем моцнага здароўя і даўгалецця.*
**Жонка, дзеці.**

*Віншуем ЛЯЎЧУК Ірыну Мікалаеўну з 18-годдзем. Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у вучобе, асабістым жыцці.*
**Бацька, маці, сястра Таня, Саша, Дзіма.**





## ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

### ПРАДАЕЦЦА

- Цагляны дом з гаспадарчымі пабудовамі (сад, агарод, усе выгоды) у г. Івацэвічы.
*Тэл. (8-01645) 21-7-23.*
- Паркет дубовы, 200.000 руб. за 1 кв. м.
*Тэл. (8-02340) 35-0-06.*
- Жаробка — адзін год
Уздзенскі раён, в. Каралёва.
*Тэл. (8-218) 39-1-51.* Харлап К. М.
- Дошка неабразная, вагонка, плінтус.
*Тэл. (0172) 52-85-56.*
- Настольная газавая пліта, двухканфорачная, з рэдуктарам, новая.
*Тэл. 94-66-17.*
- Дом у г. Глыбокім Віцебскай вобл. з гаспадарчымі пабудовамі і гаражом.
*Тэл. (8-256) 3-77-37.*
- Двухпакаёвая кватэра ў г. Ганцавічы.
Даведкі ў Асіповічах.
*Тэл. (8-02235) 2-30-73 у рабочыя дні.*
- Драўляны дом 6х12, ёсць хлеў, газ, вада ў в. Гудаўка Нясвіжскага раёна.
*Тэл. у Нясвіжы 5-36-53;*
- Трубы для свідравіны 26 м з фільтрам.
*Тэл. 94-66-17.*

### РОЗНАЕ

- Мяняю трохпакаёвую кватэру ў г. Рагачове на Бярозу, Брэст.
*Тэл. (8-01643) 25-2-00.*
- Шукаю працу на даму.
Пісаць: *222698, Мінская вобл., Стаўбцоўскі раён, в. Белькаўшчына.*
Стома Алена.
- Мяняю трохпакаёвую кватэру ў г. Чэрвені на кватэру ў Мінску.
*Тэл. (8-214) 41-1-28 пасля 18.*
- Мяняю 4-пакаёвую прыватызаваную кватэру ў Маладзечне на 2 двухпакаёвыя.
*Тэл. (8-273) 6-14-53.*
- Электрамантаж, падключэнне электраабсталявання, перанос разетак.
*Тэл. 263-10-22.*
- Выпускнікі філфака БДУ 1973 г., дамовімся аб сустрэчы.
*Лаўтук, Магілёў, вул. Маўчанскага, д. 34, кв. 112.*
- Сустрэча выпускнікоў БТІ факультэта ЛІФ 1986 г. адбудзецца 22.06.96 г. каля корпуса № 4.
*Тэл. (02340) 39-5-11*
- Праекты: трохфазных уводаў электраацяплення дамоў, электракацельняў, вентыляцыі.
*Тэл. у Віцебску 50-4-54.*
- Мяняю зямельны ўчастак у Валяр'янах Уздзенскага раёна на Рудамейку Смалявіцкага раёна.
*Тэл. 2-64-19-66.*
- Мінгардаведка прапануе заключыць дагаворы з зацікаўленымі асобамі і арганізацыямі на пастаўку выразак з газет па розных тэмах.
*Тэл. 20-98-21.*
- Электрамантаж, падключэнне электраабсталявання, перанос разетак.
*Тэл. 263-10-22*



## МАЙСКАЯ СПРОБА ЗАВАСТРЫЦЬ ПРАБЛЕМУ. У СФЕРЫ НЕРУХОМАСЦІ

**Беларуская асацыяцыя «Нерухомасць», прэзідэнтам якой з'яўляецца дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Васіль Хрол, рыхтуецца да правядзення нацыянальнай канферэнцыі. Назва лаканічная і па сённяшнім часе вельмі зразумелая — «Нерухомасць Беларусі». Мэта ж мерапрыемства, правядзенне якога ў беларускай сталіцы прызначана на 29 мая, — стварэнне ўмоў для фарміравання і функцыянавання цывілізаванага рынку нерухомасці ў нашай краіне.**

Безумоўна, адной толькі нарадай, няхай сабе і самай прадстаўнічай, воз рэформаў наўрад ці можна будзе скрануць з месца.

— На канферэнцыю мы не проста запрашаем кіраўнікоў розных галін улады, — гаворыць прэзідэнт БелАН Васіль Хрол, — а запрашаем іх для ўдзелу ў грунтоўным абмеркаванні праблем. Мяркуем, што з дакладамі выступяць намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Л. Сініцын, міністр архітэктуры і будаўніцтва Г. Навіцкі, міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Б. Батура, намеснік міністра па кіраванню дзяржмаёмасцю і прыватызацыі В. Някрашэвіч і шмат хто яшчэ. Самім фактам правядзення канферэнцыі мы пастараемся максімальна праінфармаваць дзелавыя колы пра стан і перспектывы развіцця рынку нерухомасці ў Беларусі.

Да слоў Васіля Хрола трэба, відаць, дадаць і наступнае, што вызначае задачы нацыянальнай канферэнцыі «Нерухомасць Беларусі»: абмен вопытам і ўсталяванне цесных дзелавых кантактаў паміж дзяржаўнымі, грамадскімі і камерцыйнымі структурамі, якія дзейнічаюць на рынку нерухомасці, падрыхтоўка прававых шляхоў узаемадзеяння дзяржавы і прыватніка, аб'яднанне ўсіх удзельнікаў рынку нерухомасці ў працэсе яго фарміравання.

Запрашэнні да ўдзелу ў канферэнцыі БелАН і яе прыхільнікі адпраўляюць па 1500 адрасах. Так што ў маі гасцей у Мінску паболее.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ
### у камерцыйных банках на 9 красавіка 1996 г.

| Назва банка | Долар ЗША Купля | Долар ЗША Продаж | Нямецкая марка Купля | Нямецкая марка Продаж | Расійскі рубель Купля | Расійскі рубель Продаж | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Белбізнесбанк (гал. аперац. упраўл.) | 12900 | 13100 | 8600 | 8900 | 2.50 | 2.60 | 769-533 |
| Белбізнесбанк (гар. дыр.) | 12850 | 13100 | 8500 | 8850 | 2.50 | 2.65 | 271-906 067 |
| ФК «Вераніка»* (за расійскія рублі) | 13000<br>4910 | 13050<br>5000 | 8700 | 8900 | 2.62 | 2.70 | 531-504 |
| Банк «INKO» (за расійскія рублі) | 12950<br>4925 | 13100<br>5077 | 8600 | 8950 | 2.60 | 2.70 | 238-020 |
| Мінскі транзітны банк* | 12850 | 13100 | 8500 | 8900 | 2.50 | 2.70 | 298-174 |
| Ф-л 0104 АКБ «Минский транзитный банк» | 12900 | 13100 | 8550 | 8800 | 2.50 | 2.65 | 372-825 |
| Народны банк | 12900 | 13050 | 8700 | 8850 | 2.52 | 2.62 | 238-610 |
| «Алімп» | 12800 | 13100 | 8500 | 8900 | 2.55 | 2.70 | 589-649 |
| Ф-л № 1 АКБ «Алімп» | 13000 | 13100 | 8600 | 8700 | 2.50 | 2.60 | 291-646 |
| Магазін «Панарама», фірмы «Энергія ГмбХ» | 12900 | 13100 | 8550 | 9100 | 2.52 | 2.70 | 265-612 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безн. разл.) | 11700 | | 7903.27 | | 2.42 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 4873 | | 3293.24 | | 100 бел.р. 41.20 | | |

* — Аперацыя з валютай звыш 1000 $ праводзіцца на дагаворных умовах

**Агенцтва Граўцова.**

**Мяняю катэдж у Валожыне Мінскай вобласці на кватэру ў Мінску альбо прадам.**
***Тэл. (0172) 60-97-97.***

**Мяняю 3-пакаёвую прыватызаваную кватэру ў г. Слонім на Мінск, Стоўбцы, Нясвіж.**
***Тэл. у Слоніме 2-32-52.***

# УДАР ПА НЫРКАХ

**...гавораць, ён вельмі балючы. Ад яго ў чалавека займае дух і ўзнікае думка: няўжо гэта канец?**
**...Пакуль дзяржаўныя мужы вырашаюць лёс закона аб трансплантацыі, аперацыі па перасадцы нырак прыпынены, і людзі дарэмна чакаюць палёгкі і паратунку...**

***Н**ЯДАЎНА давялося ехаць у аўтобусе, які курсіруе ў сталіцу з Ліды. Маёй суседкай па сядзенні аказалася хударлявая сімпатычная жанчына гадоў сарака пяці. Як гэта заўсёды бывае ў адносна доўгім падарожжы пры адносна цесным суседстве, разгаварыліся. За дарогу перагаварылі пра ўсё, пра што можна гаварыць пры выпадковым знаёмстве без працягу. Я ўжо ведала, што мая спадарожніца едзе ў Мінск у бальніцу і што ездзіць яна вось так даволі часта... Як гэта заўсёды бывае пры выпадковым знаёмстве без працягу, раптам пасля жывой гутаркі ўсталявалася працяглая паўза, якая ў мяне асабіста заўсёды выклікае пачуццё няўтульнасці і няёмкасці. Каб пазбегнуць гэтага пачуцця, я паспяшалася працягнуць гутарку, не прыдумаўшы нічога лепшага, як пачаць распытваць сваю суседку пра яе хваробу, ведаючы, што ў такім узросце многія жанчыны любяць пагаварыць пра свае вялікія і малыя балячкі...*

*Я пралічылася. Мая субяседніца толькі коратка сказала: «Я зноў еду на дыяліз». І толькі потым, пасля доўгай паўзы, заўважыўшы няўцямны выраз на маім твары (вядома ж, я нават не ўяўляла, што такое дыяліз) з неахвотай патлумачыла: «Я ж жыву практычна без нырак. Дыяліз іх замяняе. Вось езджу два разы на тыдзень. Захварэла аднойчы на запаленне лёгкіх, не змагла цэлы тыдзень прыехаць — ледзь не памерла...» Пачуццё такту падказвала мне, што трэба пакінуць гэту не вельмі прыемную тэму, але цікаўнасць узяла верх. Як дзіця свайго часу, я шмат чула пра паспяховую перасадку розных органаў. Чула я таксама, што ў нас асабліва ўдала праводзяцца аперацыі па трансплантацыі нырак. Чаму маёй суседцы не зрабілі такую аперацыю і яна вымушана ездзіць два разы кожны тыдзень на нейкі дыяліз? «Я з задавальненнем згадзілася б на аперацыю. І чакала, і спадзявалася, што вось-вось паступіць іменна «мая» донарская нырка. Але нядаўна ўрач сказаў, што спадзявацца пакуль што няма чаго. Маўляў, пакуль не прымуць нейкі закон, донарскія органы для перасадкі паступаць наўрад ці будуць...» Апошнія фразы зацікавілі мяне ўжо з прафесіянальнага боку, і праз некалькі дзён я наведала клініку уралогіі на базе 4-й клінічнай бальніцы Мінска, пацыентка якой ехала тады са мной у аўтобусе.*

*У аддзяленні трансплантацыі са мной згадзіўся пагутарыць урач-хірург Леанід Ткачоў. Гаварылі мы з ім пра надзённае і набалелае.*

**— Леанід Пятровіч, вы толькі што пачулі ад мяне фразу, якую сказала ваша пацыентка. Маўляў, донарскія органы не паступаюць з-за таго, што не прыняты нейкі закон. Патлумачце, што гэта за закон і чаму яго адсутнасць тармозіць вашу працу?**

— Размова ідзе пра Закон аб трансплантацыі, які быў прыняты ў першым чытанні, але па сённяшні дзень знаходзіцца на дапрацоўцы, а гэта значыць, фактычна яшчэ не дзейнічае. Пакуль гэты закон не будзе прыняты (а зараз пытанне ставіцца так, ці будзе ён увогуле прыняты), у нашай клініцы аперацыі па перасадцы ныркі наўрад ці будуць праводзіцца...

**— Але да гэтага яны праводзіліся, і, наколькі я ведаю, даволі паспяхова. І адсутнасць закона не перашкаджала справе...**

— Мы кіраваліся 37-м артыкулам Закона аб ахове здароўя. Фактычна, павінны кіравацца ім і сёння. Але абмеркаванне праекта асобнага Закона аб трансплантацыі набыло вельмі бурны характар. Прычым, характар катэгарычны: узнікаюць спрэчкі на самым высокім узроўні (маю на ўвазе Вярхоўны Савет), ці патрэбен такі закон увогуле. Некаторыя ўдзельнікі гэтай дыскусіі называюць урачоў, якія займаюцца трансплантацыяй, злачынцамі, якія толькі і робяць, што прадаюць чалавечыя органы за мяжу, выдаляючы іх не толькі ў нябожчыкаў, але і ў жывых людзей.. Галасы такіх выступоўцаў даволі моцныя, таму можна рэальна апасацца таго, што закон так і не будзе прыняты... Таму я вельмі добра разумею сваіх калег, якія даюць нам магчымасць браць органы з рэанімацыйных аддзяленняў. Яны ўстрымліваюцца ад выдалення органаў у людзей, што памерлі, на аснове 37-га артыкула і чакаюць прыняцця або непрыняцця новага закона. Вядома, кожнаму будзе не вельмі прыемна, калі сёння ты, забіраючы ныркі ў нябожчыка, ратуеш жыццё дваіх жывых людзей (перасаджваецца толькі адна нырка. — **А. Л.**), а заўтра цябе называюць (прычым бяздоказна!) злачынцам і «чорным каршуном» (так «пастаралася» адно выданне. — **А. Л.**)...

*Цытата: «...закон аб трансплантацыі ...для працоўных будзе страшнейшы, чым закон аб прыватызацыі, бо прыватызацыя пазбаўляе рабочых і сялян уласнасці, а трансплантацыя робіць замах на іх здароўе і жыццё...» (Валерый Шчукін, дэпутат ВС, «Народная газета», 14 красавіка г. г.).*

**— Леанід Пятровіч, напэўна, аперацыі па трансплантацыі вельмі дарагія. Хто іх аплачвае? Мо і сапраўды дазволіць сабе перасадку могуць толькі вельмі багатыя людзі, а рабочыя і сяляне могуць далучыцца да трансплантацыі, толькі стаўшы донарамі пасля смерці?**

— Так, аперацыя і лячэнне на працягу паўгода абыходзіцца прыкладна ў 15 тысяч долараў. Яшчэ ні адзін наш пацыент не заплаціў за лячэнне са сваёй кішэні. Але за некаторых плаціць прадпрыемства, на якім чалавек працаваў. У мінулым годзе з трыццаці трох хворых, якім была зроблена аперацыя, за шасцярых было заплачана.

**— А за якія грошы лячыліся астатнія?**

— У асноўным за дзяржаўныя, а часткова за тыя, што засталіся ад лячэння заплаціўшых хворых. Яны ж аплачваюць за паўгода, а калі курс лячэння ідзе паспяхова, яго можна скончыць і за тры месяцы. Такім чынам удаецца нешта зэканоміць.

**— Наколькі я зразумела, калі прыходзіць донарская нырка, яе перасаджваюць таму, каму яна падыходзіць, нягледзячы на тое, здольны гэты чалавек аплаціць аперацыю ці не?**

— Іменна так. Галоўнае — біялагічная сумяшчальнасць донарскага органа і чалавека, а не фінансавы стан апошняга.

*Некалькі цытат: 1. «Яны (кааператывы, створаныя пры клініках. — **А. Л.**) ужо дзейнічаюць пры моргах, але пакуль трыбушаць трупы, а пасля прыняцця закона аб трансплантацыі пусцяць пад нож жывых, бо, як толькі паступіць хворы, які будзе мець неабходныя для біялагічнай сумяшчальнасці даныя, лёс такога хворага прадвырашаны: ... кансіліум урачоў, якім плаціць кааператыў, канстатуе смерць...» (В. Шчукін, «Народная газета», 14 красавіка).*

*2. «Я буду шчаслівы, калі дапамагу каму-небудзь пасля сваёй смерці» (Запіс у англійскай карце донара. Далей пералічваюцца органы, якія можна выдаліць.)*

*3. «Забор органаў і тканак можа ажыццяўляцца пасля смерці ў чалавека, які даў пры жыцці згоду на выкарыстанне пасля смерці органаў і тканак у медыцынскіх мэтах, а пры яе адсутнасці — са згоды блізкіх сваякоў, ці іншых законных прадстаўнікоў.*

*Забор органаў і тканак можа ажыццяўляцца таксама і ў выпадку, калі пры жыцці чалавека не быў афармлены ва ўстаноўленым парадку дазвол на трансплантацыю органаў і тканак пасля смерці, а даведацца меркаванне блізкіх сваякоў або законных прадстаўнікоў нябожчыка немагчыма» (Арт. 37 Закона аб ахове здароўя).*

**— Леанід Пятровіч, адкуль паступаюць да вас донарскія органы?**

— У нас дамоўленасць з рэанімацыйнымі аддзяленнямі ўсіх буйных бальніц рэспублікі. Спіс узгоднены з міністэрствам аховы здароўя. Забор органаў правамоцны толькі ў рэанімацыйных аддзяленнях, у выпадках, абумоўленых 37-м артыкулам (глядзіце вышэй. — **А. Л.**).

**— Напэўна, часцей за ўсё паступаюць органы тых людзей, у якіх не было сваякоў, каб выказаць сваю згоду ці нязгоду?**

— Якраз не. Звычайна нябожчыкі, у якіх няма сваякоў, — людзі, якія жылі, мякка кажучы, няправільна: бамжы, наркаманы, алкаголікі. Ці могуць быць у такіх нябожчыкаў прыдатныя для перасадкі ныркі? Як правіла, нашымі донарамі становяцца здаровыя людзі, якія загінулі ў выніку якіх-небудзь аварый.

*Цытата: «Такі далікатны орган, як ныркі, для перасадкі забіраецца ў 4-й Мінскай клінічнай бальніцы, калі паводле даных электраэнцэфалаграмы галаўны мозг паміраючага перастае функцыянаваць — значыць, смерць зафіксавана, але дыханне і сардэчная дзейнасць яшчэ падтрымліваецца апаратамі». («Знамя юности», 27 сакавіка 1996 г.).*

**— ...Напэўна, усё-такі негуманна выдаляць орган у чалавека, у якога, хай сабе і з дапамогай апаратаў, яшчэ дзейнічаюць лёгкія і б'ецца сэрца...**

— Адкуль вы даведаліся, што адбываецца так? Ныркі — якраз той адзіны орган, які можна забіраць у трупа ў поўным сэнсе гэтага слова. У адрозненне ад сэрца і печані, якія сапраўды можна выдаляць для перасадкі пры зафіксаванай ужо смерці мозга, але яшчэ пры наяўнасці цыркуляцыі крыві. Ныркі выдаляюць, калі ўжо ўрачы-рэаніматары, прыняўшы ўсе меры па выратаванню жыцця, бяссільныя што-небудзь зрабіць: зафіксавана смерць мозгу, адсутнічаюць дыханне і сэрцабіццё, — карацей, чалавек памёр. Праўда, забор можна ажыццявіць на працягу ўсяго 30 хвілін пасля смерці, таму служба трансплантацыі носіць статус экстраннай.

*Цытата: «...пры сацыялізме мы ішлі па шляху стварэння штучных органаў, і толькі збочыўшы з сацыялістычнага шляху, перайшлі на антынародны капіталістычны спосаб перасадкі...» (В. Шчукін, «Народная газета», 14 сакавіка, г. г.).*

**— Леанід Пятровіч, а можа сапраўды працей абысціся штучнымі органамі?**

— А вы бачылі штучную нырку? Адразу відаць, што не, калі задаяце такое пытанне. Штучная нырка (ці гемадыяліз) — вялізны апарат, з дапамогай якога мы ачышчаем арганізм хворага ад шкодных рэчываў, якія ў здаровага чалавека перапрацоўваюць ныркі. Сеанс гемадыялізу доўжыцца 4—6 гадзін, 2-3 разы на тыдзень. Тое, што ў здаровага чалавека ці ў чалавека з перасаджанай ныркай, калі яна прыжылася, перапрацоўваецца паступова, на гемадыялізе «высмоктваецца» за некалькі гадзін. Таму, натуральна, аналізы ў такіх хворых не вельмі добрыя. Гемадыяліз не лечыць ныркі, ён іх проста замяняе. Чалавек усё жыццё вымушаны будзе два-тры разы на тыдзень прыходзіць сюды «на дыяліз». У той час як людзі з донарскай ныркай з'яўляюцца толькі на абследаванне...

**— Што ж будзе, калі закон не прымуць?**

— Справа трансплантацыі наогул можа спыніцца. Мы ўжо 4 месяцы не рабілі ніводнай аперацыі: не паступаюць донарскія органы. У нашы аддзяленні гемадыялізу, разлічаным на 55 хворых, лечацца зараз 66. Будзе, натуральна, яшчэ болей. Гэтак жа, як і ў буйных гарадах, дзе такія аддзяленні таксама ёсць. Штогод з мільёна насельніцтва колькасць хворых, у якіх ныркі не выконваюць сваіх функцый, павялічваецца на дваццаць пяць чалавек. А мы можам пры аптымальных умовах — наяўнасці донарскіх органаў і лекаў рабіць 60 трансплантацый у год. 60 чалавек можна вярнуць да нармальнага жыцця...

### З УБАЧАНАГА

*Пасля мне паказалі хворых... Ужо потым, калі здымала тэкст з дыктафона, ніяк не магла зразумець, што гэта за гул, які перакрывае словы маіх суразмоўцаў. Пасля даўмелася: гэта гулі «штучныя ныркі». Такую «нырку» не панясеш з сабой. Гэта даволі ўнушальных памераў скрынка, якая міргае рознымі агеньчыкамі і гудзе. І адзінае, што звязвае з ёй чалавека, — некалькі правадкоў і трубачак, што ідуць ад «ныркі» да рукі, да венаў... Але гэтыя тонкія правадкі прывязваюць чалавека да ложка кожны тыдзень на дванаццаць гадзін. І так усё жыццё. Вядома, пасля сеансу можна ўстаць, адчуць сябе амаль здаровым і пайсці. Пайсці, каб праз колькі дзён зноў вярнуцца да «сваёй» «ныркі». Ад яе не ўцячэш. «Гэта наша жыццё», — сказаў адзін пацыент.*

*Усе хворыя, з якімі я гутарыла «на дыялізе», спадзяюцца на аперацыю па перасадцы. Кожны чакае, калі прыйдзе «яго» донарскі орган. Толькі адна жанчына адмовілася ад аперацыі, якую ёй ужо прапаноўвалі. Яна жыве недалёка ад бальніцы і баіцца, што гармоны, якія трэба ўжываць пасля перасадкі, сапсуюць яе знешні выгляд. Я яе зразумела. Яна маладая і прыгожая. Але на колькі яе хопіць, каб пастаянна ездзіць «на дыяліз»? На год? На два? А пасля? Пасля яна таксама будзе на нешта спадзявацца, нечага чакаць.*

*Я бачыла хворых з перасаджанай ныркай, гутарыла з імі. Да перасадкі яны былі «на дыялізе», ім ёсць што і ёсць з чым параўноўваць. Зараз яны адчуваюць сябе амаль здаровымі людзьмі, могуць працаваць. «Перасаджаная нырка нашмат лепш, чым дыяліз», — сцвярджаюць яны. Я ім веру.*

*А яшчэ я бачыла «на дыялізе» дзіця — дзяўчынку гадоў дзесяці. Ёй ужо рабілі перасадку ў Маскве. Але донарская нырка «не прыжылася», яе выдалілі, малую зноў адправілі «на дыяліз». Для яе гэта была трагедыя. Я не змагла размаўляць з ёй. Але ў вялікіх яе вачах, не па-дзіцячаму напоўненых болем, я ўбачыла спадзяванне і чаканне, што ёй дапамогуць.*

### НЕАБХОДНАЕ РЭЗЮМЕ

*Зразумела, можна гаварыць пра злачынны гандаль чалавечымі органамі. Вядома, яго нельга ўзаконіць. Але чаму нельга ўзаконіць гуманны бок трансплантацыі і за ўсім гэтым наладзіць строгі кантроль, каб мэта выратавання жыцця не ператварылася ў мэту нажывання грошай? «Чорнаму рынку» законы не патрабуюцца... А хворыя людзі чакаюць. І паміраюць. Пакуль важныя дзядзькі спрачаюцца...*

*...Можа, яны проста не бачылі вачэй той дзяўчынкі? Ці, як сказаў адзін урач (урачы не выбіраюць прыгожых слоў): «Пакуль саміх смажаны певень у зад не дзеўбане»?..*

*Ледзь не забылася. Маленькая дэталь: эмблема ў аддзяленнях трансплантацыі — адна чалавечая рука цягнецца на дапамогу другой чалавечай руцэ.*

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

---

*ЧЫТАЧ Б'Е ТРЫВОГУ!*

# ЦІ ТАК ТРЭБА ЗМАГАЦЦА З ПАВОДКАЙ?

## Чаму возера ў Вілейскім раёне аказалася як пасля бамбёжкі

***Звярнуцца да вас, паважаная рэдакцыя, прымусіла мяне жудаснае відовішча, якое я ўбачыў у тую суботу, калі прыехаў на выхадныя ў вёску да бацькоў. Сам я афіцэр, служу на авіяцыйнай базе, якая знаходзіцца на Віцебшчыне. Бацькі мае жывуць у вёсцы Юнцавічы, што на Вілейшчыне. Малая гэта вёска, да аўтобуснага прыпынку пешшу — хвілін 40. Некалі тут рос прыгожы лес, я малым яшчэ збіраў у ім баравікі, але нехта нічога лепшага не прыдумаў, як спілаваць усё, што расло ў наваколлі. Мінула гадоў, можа, 20, а на месцы былога лесу растуць лазовыя кусты ды іншы хмызняк. Толькі да ўсяго прывыкае чалавек, нават да апусцелага краявіду.***

*Цякла тут некалі невялічкая рэчка, у якой і назвы не было, за вёскай яна ўпадала ў забалочанае азярцо. Меліяратары насыпалі дамбу, выпрамілі рэчку, з'явілася добрае возера, у якім завялася рыба: карасі, сазаны і шмат іншай. Вясной прыляталі сюды лебедзі. Рыбу лавілі па-рознаму: хто вудамі, хто лескай, былі і такія, што закідвалі і электравуды. Але гэта, як кажуць, дробязь у параўнанні з тым, што тут здарылася...*

*Зараз усе чакаюць пачатку паводкі, створаны розныя камісіі, нават мы на авіябазе да яе гатовы. Дык вось, тыдні два таму, а можа, крыху болей (дакладнай даты не ведаю) прыехалі з проціпаводкавай камісіі людзі. Колькі іх было і хто там быў, сёння сказаць цяжка. Але адкрылі яны шлюз і паехалі. Дні праз два жыхары суседняй вёскі Забалоцце ўбачылі, што па канаве, якая за дамбай, нясе вада рыбу. Кінуліся яе лавіць, а калі дабраліся да возера, то яго ўжо не было. Лёд праваліўся, і рыбу, якая не ўцякла праз шлюз, прыціснуў да дна. Вяскоўцы рэзалі лёд бензапіламі, секлі тапарамі: рыбы ж было шмат. У суботу, 30 сакавіка, дно возера нагадвала поле бою пасля бамбардзіроўкі стакілаграмовымі бомбамі. Рыбу вазілі на санках, цягалі хто як і колькі мог, а колькі яе засталося ў лядовым палоне, убачым, як растане ўвесь лёд.*

*Знікла вада з возера, і гэта адбілася на студні, з якой бяруць ваду насельнікі шасці хат. Яе не хапае, а гэта лішні клопат, якіх і без таго нямала ў вёсцы.*

*Кажуць, што гэтай справай займаецца пракуратура, але мала верыцца. Назваць такія захады па барацьбе з паводкай дзікунствам, варварствам ці яшчэ як-небудзь усё роўна будзе вельмі мякка. Няма слоў, каб выказаць усё абурэнне. Калі будзем жыць дома, як на чужыне, нішчыць прыроду — застанёмся з высечанымі лясамі, забалочанымі і бязрыбнымі азёрамі, сажалкамі. Што пакінем пасля сябе?*

**Уладзімір МАЦКЕВІЧ.**

### АД АДДЗЕЛА ПІСЬМАЎ

Як бачна з пісьма, нашага чытача моцна абурыла тое, што ён убачыў у сваёй роднай вёсцы. А вось начальнік Вілейскай раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Генадзь Каробчыц, з якім мы звязаліся па тэлефоне, на прыведзеныя факты адрэагаваў даволі спакойна. Ён растлумачыў, што, згодна з указаннем вышэйшых інстанцый, прыняты меры па папярэджанню веснавой паводкі, якая чакаецца. У прыватнасці, меліяратарам было даручана на сваіх збудаваннях з дамбамі і шлюзамі спусціць ваду. Так і было зроблена, у тым ліку і на вадасховішчы ля вёскі Юнцавічы.

Такія захады мой тэлефонны субяседнік абгрунтаваў тым, што сёлетняй зімой на вадасховішчах утварыўся тоўсты ледзяны панцыр, і рыба пад ім пачала задыхацца, нават мог пачацца яе мор. Выходзіць, спускам вады рыбе вырашылі «дапамагчы», «выратаваць» яе. Вось чаму, калі рыба трэснутым ільдом была прыціснута да дна, і дазволілі яе мясцоваму насельніцтву браць на харчаванне — не прападаць жа дабру.

Аднак Генадзь Андрэевіч сам зазначыў: «Усё ж прыкра атрымліваецца: адно ратуем, а другому (у дадзеным выпадку — рыбе. —**Рэд.**) наносім шкоду. Але такое назіраецца не толькі ў нашым раёне, а таксама ў Салігорскім, Старадарожскім, іншых...

Вядома, у рэспубліцы ўсім, каму належыць, — ад меліяратара да міністра, трэба прымаць усе меры, каб прадухіліць разбуральныя вынікі паводкі. У тым ліку спускаць лішнюю ваду там, дзе гэта неабходна. Аднак такую важную справу рабіць трэба пад неаслабным кантролем...

І гэта ў той самы час, калі ў мэтах захавання рыбных рэсурсаў у вадаёмах рэспублікі і стварэння спрыяльных умоў для ўзнаўлення вясенненерастуючых рыб, у адпаведнасці з Палажэннем аб Міністэрстве прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, усялякае рыбалоўства цяпер, у веснавы перыяд, забараняецца. Выходзіць, выцягнуць вудай нейкага карасіка ці шчупачка нельга, а вось шляхам паўсюднага спуску вады знішчаць яе цэнтнерамі і тонамі можна.

## ПРАЗ ТРЫ ТЫДНІ ПАСЛЯ ТРАГЕДЫІ

**Тры тыдні таму на Беларусі амаль адначасова здарыліся дзве трагедыі, у выніку якіх загінулі людзі. Сёння і ў Крычаве, дзе гарэў інтэрнат завода гуматэхнічных вырабаў, і ў Оршы, дзе ў міліцэйскай «дзяжурцы» на вакзале адбылося страшнае забойства, пра гэтыя падзеі амаль нічога не напамінае.**

Калі б недасведчаны чалавек апынуўся сёння ў інтэрнаце Крычаўскага завода, то палічыў бы, што дваццаць шэсць сем'яў збіраюцца спраўляць наваселле. Пра пажар, які забраў жыцці адразу семярых чалавек, а пазней і яшчэ адной пятнаццацігадовай дзяўчыны, нагадвала толькі адна чорная пляма над акном калідора пятага паверха.

— Тых, каму не было куды падацца, мы размясцілі ў гасцініцах, інтэрнатах, — кажа старшыня прафсаюзнага камітэта завода Мікалай Лючкоў. — Пражыванне і харчаванне людзям аплаціў завод. Пахаванне таксама было аплачана прадпрыемствам. Сем'ям пацярпеўшых прафсаюз выдзеліў дапамогу ў памеры 3 мільёнаў рублёў на чалавека. Зразумела, не тыя гэта грошы, ды і людзей імі не вернеш, аднак усё ж падтрымка ў бядзе.

Без падтрымкі не пакінулі людзей ні ўлада, ні суайчыннікі. На рахунак прафкома завода паступіла 23 мільёны рублёў ад прафсаюзных арганізацый рэспублікі. Магілёўскі аблвыканком выдзеліў 500 мільёнаў рублёў на рамонт памяшкання. Будаўнічыя брыгады МПК-264 і МПК-109 працавалі ў дзве змены: праз два тыдні быў поўнасцю адрамантаваны той злашчасны пяты паверх. Агонь пашкодзіў толькі адзін пакой, дзе і пачаўся пажар. Астатнія дваццаць пяць ад агню не пацярпелі.

— Пажар быў лакалізаваны ў 83-м пакоі, — Антон Гердзій, памочнік дырэктара завода па сацыяльных пытаннях, паказвае на схеме шлях руху смяротнага газу. — Дым з пакоя накіраваўся па калідору да адчыненага акна. Ён запаўняў тыя пакоі, дзе былі адчыненыя дзверы. Таму і людзі загінулі, што наглыталіся гэтага дыму — прадуктаў згарання лінолеуму. Ад агню ніхто не загінуў, усе атруціліся газам.

Калі адчынялі дзверы 83-га пакоя, я чамусьці сцялася ўнутры, чакала ўбачыць нешта страшнае. Сонечны свет заліваў невялікае памяшканне са свежапаклеенымі белымі шпалерамі і свежапафарбаваным акном. Падлогу ўсюды пасцялілі ДВП — лінолеум як будаўнічы матэрыял сябе дыскрэдытаваў. У некаторых пакоях жыхары ўжо прыладжвалі паліцы, расстаўлялі мэблю, некалькі сем'яў перабраліся амаль поўнасцю. Засталіся дробязі — прымацаваць дзвярныя ручкі, укруціць электрапробкі, па якія ў Мінск давялося ехаць, бо ў Магілёўскай вобласці знайсці не змаглі.

Расказваючы аб магчымых прычынах трагедыі, камендант інтэрната Барыс Чарткоў адзначыў: «Мы рэгулярна разам з участковым Марозавым абход робім — самаробныя электранагравальнікі і пліты выкідваем з пакояў. Але ж не ўгледзіш за ўсімі. А тут яшчэ так атрымалася, што напярэдадні дні тры камунальнікі ацяпленне адключылі. Усю зіму ў інтэрнаце 22 градусы было, форткі заўсёды адчыненыя стаялі, а на пачатку вясны паліва не стала хапаць, як нам растлумачылі потым. Пасля ж трагедыі паліва знайшлося».

Прычыны бяды ўстановіць следства, толькі людзей яно не верне. Як не верне і капітана міліцыі Міхаіла Дзям'янава, што ўласным целам закрыў гранату і захаваў жыццё шасцярых чалавек.

Як паведаміў начальнік Аршанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце Анатоль Бохан, следства ўстанавіла асобы злачынцаў. «Прафесіяналы» знаходзіліся ў вышуку. Малінаў Сяргей Яўгенавіч, 1956 года нараджэння, рускі, збег з месцаў пазбаўлення волі, дзе павінен быў знаходзіцца дзевяць гадоў. Трыццацічатырохгадовы ўраджэнец і жыхар Нальчыка Гароеў Тахір Хамбіевіч знаходзіўся ў вышуку за разбойны напад і забойства.

Як вядома, злачынцы сканалі ў гарбальніцы той жа ноччу. Сям'і Міхаіла Дзям'янава аказана дапамога, акрамя таго, жонка, сын і дачка капітана будуць знаходзіцца на грашовым утрыманні на працягу дзесяці гадоў. З шасці раненых сёння з бальніцы выпісаны пяцёра. Стан здароўя старшага лейтэнанта Андрэя Пераходчанкі, які атрымаў вельмі цяжкія раненні, палепшыўся, але наперадзе яшчэ доўгі курс лячэння. Для пацярпеўшых і іх сем'яў паступаюць сродкі ад прадпрыемстваў і арганізацый рэспублікі. Чатыры чалавекі прадстаўлены да вышэйшых дзяржаўных узнагарод, удзельнікам падзей прысвоены званні «Выдатнік міліцыі». А сын капітана Дзям'янава Андрэй, студэнт Аршанскага чыгуначнага тэхнікума, вырашыў пайсці па шляху бацькі: ён мае намер паступіць у Акадэмію МУС.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*ЧАРНОБЫЛЬ: 10 ГАДОЎ ТРАГЕДЫІ*

## ПЛОШЧА ЗАБРУДЖВАННЯ КРЫХУ ЗМЕНШЫЛАСЯ. МЫ СТАЛІ ЖЫЦЬ ВЕСЯЛЕЙ?

***Каментарый-пасляслоўе да картаграфічных матэрыялаў, змешчаных у «Звяздзе» 6 красавіка***

Фота Уладзіміра БАТАЛІНА

*Тут жылі людзі...*

ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ катастрофа закранула лёс мільёнаў людзей, і не толькі ў Беларусі. Па маштабах, складанасці і доўгачасовых наступствах яна з'яўляецца найбольш буйной і цяжкай катастрофай за ўсю сусветную гісторыю выкарыстання атамнай энергіі. З усёй тэрыторыі еўрапейскай часткі СНД найбольш значнаму забруджванню цэзіем-137 падверглася менавіта наша рэспубліка (23 працэнты ад усёй яе плошчы).

У першыя дні пасля катастрофы на ЧАЭС Беларусь была забруджана ізатопамі ёду. Найбольшыя ўзроўні выпадзення ёду-131 мелі месца ў блізкай да ЧАЭС (10—30 кіламетраў) зоне. Значнаму забруджванню падверглася паўднёва-заходняя частка рэспублікі. Высокія ўзроўні былі выяўлены і ў «паўночнай пляме».

Высокія ўзроўні забруджвання ёдам-131 сфарміравалі высокія дозы апраменьвання, перш за ўсё шчытападобнай залозы, што ў далейшым прывяло да значнага павелічэння яе паталогіі.

Найбольш забруджанымі ў выніку катастрофы аказаліся Гомельская, Магілёўская і Брэсцкая вобласці.

Радыеактыўнае забруджванне носіць нераўнамерны, «плямісты» характар. Маюць месца выпадкі, калі на адносна невялікіх плошчах у межах аднаго населенага пункта суседнічаюць практычна чыстыя ўчасткі і моцна забруджаныя. Максімальныя ўзроўні цэзію-137 у глебе ў населеных пунктах блізкай зоны былі выяўлены ў Брагінскім раёне — 380 кі/кв. км, а ў далёкай зоне, на адлегласці 250 км, — у населеным пункце Чудзяны Чэрыкаўскага раёна Магілёўскай вобласці (лакальная пляма) — 1370 кі/кв. км.

Цяпер радыяцыйная абстаноўка на тэрыторыі Беларусі абумоўлена забруджваннем глебы такімі радыенуклідамі, як цэзій-137, стронцый-90 і ізатопы плутонію. Узроўні забруджвання цэзіем-137 больш як 1 кі/кв.км ёсць у Гомельскай, Магілёўскай, Мінскай, Гродзенскай і Віцебскай абласцях. Узроўні забруджвання глебы стронцыем-90 больш як 0,15 кі/кв. км ёсць у Гомельскай і Магілёўскай абласцях, а ізатопамі плутонію больш як 0,01 кі/кв. км — у Гомельскай вобласці і населеным пункце Чудзяны Магілёўскай вобласці.

Перыяд паўраспаду цэзію-137 складае 30 гадоў, стронцыю-90 — 29 гадоў, аднаго з ізатопаў плутонію — 24 тысячы гадоў.

Цяпер за кошт натуральнага распаду актыўнасць цэзію-137 у глебе зменшылася на 20 працэнтаў, стронцыю-90 — на 21 працэнт.

Забруджванне зямель стронцыем-90 носіць больш лакальны характар. Узроўні большыя за 0,15 кі/кв. км выяўлены на плошчы 21,1 тысячы квадратных кіламетраў, што складае 10 працэнтаў ад агульнай тэрыторыі рэспублікі. Максімальныя ўзроўні стронцыю-90 у глебе — больш як 10 кі/кв. км выяўлены ў межах 30-кіламетровай зоны вакол ЧАЭС. Найбольш высокае ўтрыманне стронцыю-90 у глебах далёкай ад станцыі зоны выяўлена на адлегласці 250 кіламетраў — у Чэрыкаўскім раёне і складае 0,8 кі/кв. км, а таксама ў паўночнай частцы Гомельскай вобласці, у Веткаўскім раёне, — 3,7 кі/кв. км.

Забруджванне глебы ізатопамі плутонію больш за 0,01 кі/кв. км ахоплівае плошчу каля 4 тысяч квадратных кіламетраў, што складае каля 2 працэнтаў тэрыторыі Беларусі. Гэтыя мясціны знаходзяцца пераважна ў Гомельскай і Чэрыкаўскім раёне Магілёўскай вобласці. Так, узроўні ад 0,01 да 0,1 кі/кв. км адзначаны ў асноўным у Брагінскім, Нараўлянскім, Хойніцкім раёнах Гомельскай вобласці. Утрыманне ў глебе плутонію на ўзроўні 0,1 кі/кв. км больш характэрна для 30-кіламетровай зоны. Найбольш высокае ўтрыманне ізатопаў плутонію ў глебе назіраецца ў населеным пункце Масаны Хойніцкага раёна — больш як 3 кі/кв. км.

Прагноз размеркавання цэзію-137 на тэрыторыі Беларусі па стану на 2016 год паказвае, што ўзроўні забруджвання больш як 1 кі/кв. км будуць назірацца на плошчы прыкладна 28,3 тысячы квадратных кіламетраў, што складзе 14 працэнтаў тэрыторыі Беларусі.

* * *

Назіранні, якія праводзіліся ў 1990—95 гадах, паказалі, што адбываюцца кароткачасовыя (сезонныя) змены радыеактыўнасці атмасфернага паветра. Адзначаны лакальныя павышэнні радыеактыўнасці ў паветры за кошт пад'ёму пылу пры палявых работах, магчыма гэта і пры лясных пажарах.

Трэба адзначыць, што гэтыя павышэнні менавіта кароткачасовыя. Павелічэнне радыеактыўнасці ў паветры такога характару пры лясных пажарах у цэлым не ўплывае на наяўнасць радыенуклідаў, якія ўтрымліваюцца ў падсцілаючай паверхні глебы.

* * *

Назіранні, што праводзяцца на буйных рэках, якія працякаюць па забруджаных тэрыторыях, паказваюць, што за перыяд з 1987 года павышэнне ўтрыманню цэзію-137 у паверхневых водах не ўстаноўлена. Пастаянны кантроль за ўтрыманнем цэзію-137 і стронцыю-90 у паверхневых водах буйных рэк з 1992-га па 1995 год паказаў, што канцэнтрацыі гэтых радыенуклідаў у вадзе ніжэй за РДУ-92 (Рэспубліканскіх дапушчальных узроўняў) у пітной вадзе для дадзенага тыпу радыеактыўных часцінак.

**Тлумачэнні карэспандэнту даюць начальнік Рэспубліканскага цэнтра радыяцыйнага кантролю і маніторынгу прыроднага асяроддзя Галоўгідрамета Іван Мацвеенка і начальнік аддзела Вольга ЖУКАВА**

**Кар.:** — Адштурхнёмся ад галоўнай высновы: за дзесяць гадоў пасля катастрофы цэзій паўсюдна распаўся на 20 працэнтаў — у вадзе, паветры і глебе. Гэта значыць узровень забруджвання цэзіем зменшыўся ў Беларусі на кожным канкрэтным участку на адну пятую.

Тады можна сказаць, што жыхары гэтых мясцін міжволі «перамяшчаюцца» з катэгорыі ў катэгорыю па ўзроўню сацыяльнай абароны, якая прадугледжваецца чарнобыльскім заканадаўствам. Хтосьці наогул ужо «выпаў» з рамак дзеяння закона, так?

**І. МАЦВЕЕНКА:** — Чарнобыльскае заканадаўства само па сабе, вядома, застаецца. Аднак змяненні ў статусе асобных грамадзян — жыхароў зоны, цалкам магчыма, могуць адбыцца. Падкрэслю, што, як запісана ў Законе аб сацыяльнай абароне чарнобыльцаў, заніраванне забруджаных тэрыторый абнаўляецца адзін раз у тры гады. Яшчэ нядаўна ў гэтым плане дзейнічала пастанова ўрада № 328. Аднак 19 лютага гэтага года выйшла пастанова Кабінета Міністраў № 116 з новым пералікам населеных пунктаў па аднесенасці іх да канкрэтных зон радыеактыўнага забруджвання. Пры гэтым улічвалася забруджванне тэрыторый цэзіем, стронцыем, плутоніем. А таксама — і дозы (знешнія і ўнутраныя) апраменьвання, атрыманыя насельніцтвам. Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, куды ўваходзіць наш Галоўгідрамет, прымала іх узровень па «Каталогу доз» 1992 года.

На сённяшні дзень з зоны радыеактыўнага забруджвання «выйшлі» 252 населеныя пункты, у тым ліку і 4 райцэнтры — Жыткавічы, Светлагорск і іншыя.

Гэтыя змены можна звязваць і з тым, што нямала вёсак і пасёлкаў знаходзіліся на тэрыторыях, дзе ўзровень забруджвання быў на «мяжы» 1 кі/кв. км. Скажам, у якой-небудзь вёсцы ў глебе было раней цэзію на ўзроўні 0,95 кі/кв. км (значыць, акруглена 1 кюры), цэзій жа за гэты час распаўся на 20 працэнтаў — шчыльнасць забруджвання зменшылася, а значыць — вёска ўжо ў чыстай зоне.

**КАР.:** — У самы раз успомніць аб новай «Канцэпцыі ахоўных мераў у аднаўленчы перыяд...», якая не так даўно ўзятая ў якасці базы для прыняцця важнейшых рашэнняў у чарнобыльскай стратэгіі. Хто і дзе бачыў, што на нашых чарнобыльскіх землях поўным ходам пайшоў так званы аднаўленчы перыяд — вось пытанне. Можа, гэта звязана і з тым, што частка цэзію распалася, забруджаныя плошчы крыху зменшыліся ў памерах?

**В. ЖУКАВА:** — Вельмі многае, заўважу, залежыць ад тыпу глебы, на якую выпалі радыенукліды таго ж цэзію. Калі глебы гліністыя, суглінкі, то цэзій у іх «трымаецца» моцна, адносна слаба паступае ў расліны, кармы, а потым праз «харчовы ланцужок» — і ў прадукты харчавання.

А вось у глебах Палесся (тут яшчэ «дапамагаюць» і іншыя прыродныя фактары) назіраецца вельмі актыўны пераход радыенуклідаў у расліны, а потым, па тым жа «ланцужку», і ў арганізм чалавека. Адсюль і ўзнікае ўнутранае апраменьванне і разнастайныя хваробы.

У чымсьці (але толькі ў чымсьці) можна весці гаворку і пра аднаўленчы перыяд. У якім плане? Асноўным ударам па насельніцтву ў час і пасля катастрофы быў першы ўдар, які нанеслі кароткажывучыя радыенукліды, — таго ж ёду-131 ці цырконію, барыю, рутэнію, якія хутка распаліся. Натуральна, што цяпер, праз дзесяць гадоў, радыяцыйная абстаноўка «ў сярэднім» у Беларусі крыху палепшылася.

Аднак ці настолькі, каб забываць пра тыя праблемы, якія стварае цэзій на палескіх землях? Трывожных і небяспечных фактаў на гэты конт больш чым дастаткова.

— **Кар.:** — У кароткай размове мы не зможам закрануць усіх складаных праблем радыяцыйнай, медыцынскай, сацыяльнай абароны насельніцтва ў забруджанай зоне, чаго ўпамянёная новая канцэпцыя людзей якраз і пазбавіла. Возьмем толькі фізічны бок, скажам так, гэтыя «голыя» кюры. Калі іх колькасць на канкрэтным асобным квадратным кіламетры зменшылася, то, можа, чарнобыльцаў, якія там жывуць, варта і павіншаваць? Хоць бы з тым, што ў іх мясцінах усё ж адбываецца нейкае аднаўленне...

**І. МАЦВЕЕНКА:** — Я асабіста не стаў бы прама заяўляць, што аднаўленчы перыяд у забруджанай зоне сапраўды пачаўся, — тут дастаткова розных праблем. Напрыклад, два такія «моманты»: у асобных раёнах радыяцыйная абстаноўка нават пагаршаецца. Чаму? Ды хоць бы таму, што плутоній-241 пераходзіць ужо ў амерыцый-241, а гэта адзін з самых небяспечных радыенуклідаў па сіле ўздзеяння на жывы арганізм. Па-другое, у сістэме Міністэрства аховы здароўя маецца нямала даных аб росце захворванняў у жыхароў зоны — і размова не толькі аб раку шчытападобнай залозы. Усё гэта і не дае магчымасці адназначна сцвярджаць аб наступленні аднаўленчага перыяду.

Увогуле, даныя змешчаных карт трэба ўспрымаць узважана і аб'ектыўна. Пра што яны гавораць? Плошча забруджвання радыеактыўным цэзіем за дзесяць гадоў зменшылася ў Беларусі з 46,5 тысячы квадратных кіламетраў да 45,5 тысячы — гэта значыць толькі на 1 тысячу квадратных кіламетраў, што ў працэнтных суадносінах пакуль даволі нязначна. Менавіта за кошт паўраспаду цэзію. Адступленне «граніц» забруджвання адбываецца ў месцах, дзе яго шчыльнасць была невысокая, малыя велічыні — 1 кюры і крыху вышэй.

Можна сказаць, што праз 20 гадоў «сцісканне» забруджанай зоны будзе яшчэ большым, але і тады пад радыенуклідамі застанецца яшчэ 28,3 тысячы квадратных кіламетраў беларускай зямлі, альбо 14 працэнтаў. Якая ж выснова? Нават у 2016 годзе, праз трыццаць гадоў пасля катастрофы, яшчэ застанецца да 38 працэнтаў забруджаных тэрыторый ад той плошчы, якая была пасля трагічнага 26 красавіка. Так што праблема Чарнобыля застаецца — ніхто гэтага аспрэчыць не зможа.

***АД РЭДАКЦЫІ. Напэўна, гадоў праз дваццаць і можна будзе заводзіць размову аб пачатку аднаўленчага перыяду — калі, вядома, стабілізуецца становішча з захворваннямі, вырашыцца праблема з чыстым харчаваннем і г. д. Пакуль жа асаблівага аптымізму даныя змешчаных карт не выклікаюць. Аднак ад гэтага апошнія зусім не робяцца «дрэннымі». Наадварот, менавіта таму, што гэтая інфармацыя праўдзівая і дакладная, яна і патрэбна грамадству. Будзем ведаць навуковыя факты — будзем і ведаць, як жывём на чарнобыльскім полі сёння, што чакае нас заўтра.***

Падрыхтаваў
**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

# АСАБНЯК НА ЗАХАРАВА

**Апошнія два гады багатыя на круглыя даты: 50-, 60-, 70-годдзі акадэмій, устаноў, друкаваных выданняў, арганізацый, творчых саюзаў, аб'яднанняў і г. д. і да т. п. адзначаліся з рознай ступенню размаху віншавальных мерапрыемстваў і ўсхваленняў, у залежнасці ад блізкасці юбіляра да ўладаў і яго фінансавых магчымасцей. І часам гром фанфар пераўзыходзіў сапраўдны ўклад віноўніка ўрачыстасці.**

**У гэтай юбілейнай плыні 70-годдзе Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі вылучаецца сціпласцю і значнасцю зробленага за перыяд свайго існавання.**

РАНЕЙ ТЭРМІН «народная дыпламатыя» мне здаваўся ўсяго толькі прыгожай гульнёй слоў. І не больш таго. Няхай сабе і народная, але ж якая там дыпламатыя? Так сабе, прыемнае падтрыманне сяброўскіх адносінаў з іншаземцамі, якім цікава з намі мецць справу. Аднак пры больш дэталёвым знаёмстве з работай Дома дружбы, як часта называюць таварыства, гэты стэрэатып знік. Я ўбачыў вынікі дзейнасці, якую па зместу з поўным правам можна назваць народнай дыпламатыяй і якая выгадна дапаўняе афіцыйную дыпламатыю, што прыносіць радзіме немалы плён.

Асабліва гэта відавочна напярэдадні самага сумнага ў пасляваеннай гісторыі Беларусі юбілею — 10-годдзя чарнобыльскай катастрофы. МЗС краіны, і ў прыватнасці прадстаўніцтва пры ААН, шмат робяць на міжнароднай арэне для таго, каб сусветная супольнасць, якая паступова страчвае цікавасць да аварыі на Чарнобыльскай АЭС, усвядоміла жахлівыя наступствы гэтай бяды для ўсяго чалавецтва.

Народная дыпламатыя, у дадзеным выпадку Таварыства дружбы, на сваім узроўні і па сваіх каналах, а гэта значыць праз сяброў і знаёмых у замежных краінах, таксама ўсе паслячарнобыльскія гады імкнулася данесці праўду пра нашу трагедыю. Яны прасякнуліся трывогай беларускага народа. У Беларусь на адрас таварыства пайшла гуманітарная дапамога: прадукты харчавання (пераважна для дзяцей), вопратка, але пераважалі медыкаменты, медыцынскае абсталяванне. Вельмі шкада, што дэфіцыт газетнай плошчы не дазваляе назваць усіх замежных сяброў (атрымаўся б даўжэзны спіс), якія ў цяжкую хвіліну працягнулі руку дапамогі пацярпеўшым ад аварыі. Гэта быў важны ў маральным плане падбадзёрвальны поціск і адначасова істотная матэрыяльная падтрымка, якая ацэньваецца ў дзесяткі мільёнаў долараў.

Але ж пра асобных сяброў нельга не сказаць. Аднымі з першых на нашу бяду адгукнуліся за акіянам вучні і выкладчыкі сярэдняй школы Рамапо амерыканскай акругі Спрынг-Велі. Дарэчы, гэту школу наведаў летась у час візіту ў ЗША Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Калі выбухнуў чарнобыльскі рэактар, там па ініцыятыве настаўніка Дональда Кернса вучні пачалі збіраць грошы на медыкаменты для Беларусі. І сабралі 50 тысяч долараў.

Гэта аднаразовая гуманітарная акцыя, штуршком якой стала чалавечая рэакцыя на гора нашага народа, у многім нечакана і для амерыканцаў, і для беларусаў перарасла ў шчырыя і трывалыя сяброўскія адносіны. Прыезды гасцей з Рамапо да нас, знаёмства з жыццём і чарнобыльскімі праблемамі, культурай, традыцыямі і мастацтвам краіны зблізілі іх з Беларуссю. Сваё спачуванне, таварыскія пачуцці маладыя амерыканцы рэгулярна падмацоўваюць істотнай гуманітарнай дапамогай. Усяго з Рамапо таварыства дружбы атрымала і размеркавала сярод медустаноў і хворых медыкаментаў больш чым на 14 мільёнаў долараў. Напрыклад, толькі ў лістападзе мінулага года таварыства накіравала медыкаменты ад Рамапо ў 55 клінік, шпіталяў і бальніц краіны.

Каля 300 тон грузаў на 10 мільёнаў марак з гуманітарнай дапамогай даслалі ці прывезлі самі сябры з нямецкай зямлі Шлезвіг-Гольштэйн. Прычым, каб прыехаць на Беларусь, яны бралі водпуск за ўласны кошт.

Агульнавядома, як рэзка пасля Чарнобыля ўзрасла ў нас крывая ракавых захворванняў шчытападобнай залозы. Для своечасовай дыягностыкі, а значыць і паспяховага лячэння хваробы патрэбна дарагая медыцынская апаратура — ультрагукавыя сканеры. Кожны каштуе прыкладна 100 тысяч марак. Дык вось, дабрачынны фонд зямлі Ніжняя Саксонія, які ўзначальвае энергічная жанчына з добрым сэрцам Хальтруд Шродэр, набыў і ў якасці дапамогі перадаў праз Таварыства дружбы 63 сканеры. У агульных планах фонду і таварыства — забяспечыць гэтай апаратурай усе райбальніцы Беларусі.

Мільёны долараў і сотні тон грузаў гуманітарнай дапамогі чарнобыльцам — гэта, безумоўна, вельмі істотны, але ўсё ж не самы галоўны здабытак Беларускага таварыства дружбы. Так лічыць яго старшыня Арсен Ваніцкі. У адрозненне ад афіцыйнай дыпламатыі, якая традыцыйна шырока асвятляецца сродкамі масавай інфармацыі, народная часта пазбаўлена гэтай увагі. Хаця яна непрыкметна, без пратакольнай мітусні і прэсканферэнцый робіць надзвычай патрэбную справу — разбурае стэрэатыпы мінулага ў галовах людзей. Здаецца, не для прыгожага слоўца амерыканец Віліс Харман, вядомы вучоны, дырэктар Інстытута даследаванняў розуму чалавека пасля паездкі па Беларусі, куды ён прыехаў па запрашэнню Таварыства дружбы, прыйшоў да высновы: «Я адчуў патрэбу садзейнічаць лепшаму ўзаемаразуменню паміж людзьмі. Перакананы, народная дыпламатыя, якой мы займаемся, з'яўляецца самым галоўным з усяго, што адбываецца зараз у свеце».

І чым больш людзі розных дзяржаў даведваюцца аб звычайным жыцці іншых народаў, тым хутчэй знікаюць стэрэатыпы. Надзвычай эфектыўным сродкам супраць іх аказалася праграма «Ад сям'і да сям'і», якую ўжо не першы год ажыццяўляе Таварыства дружбы. Сутнасць яе — у абмене візітамі сем'яў. Значна пашырылася гэта праграма летась. У беларусаў гасцявалі сем'і з Францыі, Італіі, Германіі, ЗША і г. д. І наадварот, сем'і з Беларусі выязджалі да сяброў за мяжу.

Узаемадапаўняльнасць народнай і афіцыйнай дыпламатыі стала асабліва відавочнай пасля абвяшчэння Беларуссю незалежнасці. Тады абедзве набылі якасна новыя параметры. Першая перастала скакаць пад дудку саюзнага цэнтра, другая, нарэшце, пачала працаваць непасрэдна на сваю краіну. Бо вельмі доўгі час Беларускае таварыства дружбы павінна было ў першую чаргу прапагандаваць здабыткі СССР і перавагі савецкага ладу жыцця, а ўжо потым дазвалялася ўставіць слова і пра Беларусь. А таму самыя маштабныя і выйгрышныя ў гэтым сэнсе мерапрыемствы ў той ці іншай краіне на афішах і ў аб'явах падаваліся заўсёды як «Дні Савецкага Саюза» на прыкладзе Беларускай ССР». І няважна, што дні рыхтаваліся выключна сіламі Беларусі, і сваё майстэрства і талент за мяжой дэманстравалі беларускія артысты, літаратары, народныя ўмельцы. Там часцей за ўсё іх успрымалі як «рускіх», якія сябе чамусьці называлі беларусамі.

У выніку пра нашу краіну як не ведалі і тады ў свеце, так і сёння мала ведаюць. Крыўдна, але факт: нават у не вельмі далёкіх ад нас краінах Еўропы простым яе жыхарам даводзіцца «на пальцах» тлумачыць, што гэта за з'ява такая — Беларусь. А пра яе геаграфічныя каардынаты ўжываць штамп, які ўжо стаў ходкім, — гэта новая незалежная дзяржава, якая ўтварылася пасля развалу СССР і знаходзіцца паміж Польшчай і Расіяй.

Думаю, моцна не памылюся, калі скажу, што з пэўным наборам устарэлых стэрэатыпаў пра нашу краіну прыязджаюць на працу ў Мінск і дыпламаты акрэдытаваных у Мінску пасольстваў. Зразумела, гэта катэгорыя іншаземцаў самая дасведчаная наконт Беларусі, але пераважна ў эканамічных, палітычных праблемах і пытаннях. А душа народа — у яго культурнай і гістарычнай спадчыне. Вось з ёй, удала дапаўняючы работу МЗС з дыпламатычнымі місіямі, знаёміць супрацоўнікаў пасольстваў і членаў іх сем'яў Таварыства дружбы. Звычайна гэта адбываецца на вечарынах, прысвечаных адметным падзеям, гадавінам у гісторыі Беларусі, выдатным яе дзеячам культуры, мастацтва, літаратуры і паэзіі.

Народная дыпламатыя ў асобных і, дарэчы, вельмі важных момантах ішла наперадзе афіцыйнай дыпламатыі, дзесяцігоддзямі рыхтавала ёй глебу для будучай працы. Справа ў тым, што наша знешнепалітычнае ведамства займалася выключна супрацоўніцтвам з буйнымі міжнароднымі арганізацыямі, а пра двухбаковыя дыпламатычныя адносіны з канкрэтнымі краінамі і гаворкі нават не было. Калі на нас «зваліўся» суверэнітэт, то раптам высветлілася, што дзякуючы народнай дыпламатыі ў многіх сталіцах свету нас трохі ведаюць і паважаюць.

Дзе менш, дзе больш.

З Балгарыяй, напрыклад, Таварыства дружбы традыцыйна мела шырокія і разнастайныя сяброўскія і культурныя сувязі. Ніла Гілевіча, актывіста таварыства, які пераклаў не адну сотню вершаў балгарскіх паэтаў, там называюць «братушкай», а да беларусаў увогуле ставяцца добра. Можа таму першаму нашаму паслу ў Балгарыі Аляксандру Герасіменку адносна лёгка было адаптавацца ў Сафіі.

У іншых актуальных момантах народная дыпламатыя выконвае як бы наўздагон важную працу, на якую ў нашай афіцыйнай дыпламатыі — нешматлікіх пасольстваў за мяжой не хапае сіл і часу, а нярэдка спецыфіка прафесіі дыпламата не дазваляе выходзіць за межы правілаў гульні. Хаця ёсць што і трэба што сказаць грамадскасці краіны знаходжання. Тым жа маладым немцам пра злачынствы фашысцкіх катаў на беларускай зямлі.

Іван Бейдзін, член праўлення таварыства, параўнаўча нядаўна выдатна справіўся з гэтай задачай у Германіі. Ён свабодна валодае нямецкай мовай, мае талент расказчыка, а таму прыйшлося 30 разоў выступаць у розных аўдыторыях зямель Ніжняя Саксонія і Паўночны Рэйн-Вестфалія. Бейдзіна таксама запрасілі на радыё, яго артыкул надрукавалі ў газеце «Франкфуртэр Рундшау».

Пры ўсім тым, што і афіцыйная і народная дыпламатыі працуюць на агульную ідэю, розніца паміж імі застаецца істотнай. Возьмем, напрыклад, кадры, якія ўсюды «вырашаюць ўсё». У народнай дыпламатыі, бадай, самы дэмакратычны ў свеце, калі можна так сказаць, падбор кадраў, якія адбірае жыццё па крытэрыях сяброўства, павагі і цікавасці да жыцця іншых народаў. Там няма рангаў, усе роўныя, незалежна ад службовага становішча і займаемай пасады.

Клаус Клінгер, міністр юстыцыі зямлі Шлезвіг-Гольштэйн — «важная птушка» ў сябе на радзіме, за бяспеку якога адказваюць тры целаахоўнікі. Але гер Клінгер яшчэ і член Рабочага саюза міласэрнасці. У гэтай якасці ён арганізоўваў і асабіста займаўся зборам ахвяраванняў для чарнобыльцаў. Як запасны вадзіцель грузавіка канвою з гуманітарнай дапамогай ён прыехаў у Беларусь. І калі б не папярэдняя інфармацыя аб неафіцыйным візіце высокапастаўленай асобы, то ніхто б і не здагадаўся, што Клаус Клінгер — міністр.

Насуперак афіцыйнай дыпламатыі, якая ў асноўным робіцца за зачыненымі дзвярамі ў час перагавораў і ў кулуарах, народная не мае ад грамадскасці сакрэтаў і тайных пратаколаў. Яна адкрытая, шчырая, поўная добразычлівасці і святла, а таму дорыць яе ўдзельнікам пераважна станоўчыя эмоцыі. Народная дыпламатыя накіравана не на стварэнне блокаў і альянсаў, а на саюз, не пабаюся здацца ўзнёслым, сэрцаў і душ. Можа таму па прапанове Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цішкі Гартнага, вядомых сваімі гуманістычнымі поглядамі, 7 красавіка 1926 года ў Мінску было заснавана «Беларускае таварыства культурнай сувязі з заграніцай».

Шмат вады сплыло з таго дня, але пры ўсіх палітычных бурах і ідэалагічных выбрыках, таварыства бараніла ў меру сваіх сіл і магчымасцей беларускую ідэю «людзьмі звацца», наводзіла масты з далёкімі і блізкімі краінамі. І сёння ў гэтым невялікім утульным асабняку па вуліцы Захарава часта збіраюцца людзі, сустракаюць гасцей, гучаць беларуская і замежныя мовы, народныя песні, вершы...

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

*ПОГЛЯД*

# У ПЕРАХОДЗЕ

**Ужо на працягу больш як пяці гадоў мы жывём у сітуацыі няпэўнасці. Уражанне часовасці, хісткасці, несур'ёзнасці таго, што адбываецца вакол нас, увесь час пацвярджаецца падзеямі, якія прэтэндуюць на эпахальнасць, а ў рэчаіснасці, як правіла, забываюцца праз некалькі гадоў, а то і месяцаў.**

Немагчыма ўсур'ёз думаць пра будучыню, ладзіць грунтоўны падмурак уласнага дома, калі не ўпэўнены ў тым, што законы, па якіх прапанавана табе жыць дзяржавай, заўтра не зменяцца на процілеглыя; калі не ведаеш, як будзе заўтра называцца твая краіна; калі не можаш адказаць дзецям, які сцяг будзе развявацца праз год над Домам урада, які помнік будзе стаяць на галоўнай плошчы, чый партрэт будзе вісець у кабінеце чыноўніка, нарэшце, на якой мове будзе размаўляць са сваім народам лідэр краіны, калі такая захаваецца...

Некалі, у 70—80-х гадах, калі ўжо станавілася відавочным, што калгасна-саўгасная сістэма, нягледзячы на шматмільярдныя інвестыцыі, канчаткова дыскрэдытавала сябе, але гаварыць пра гэта ўголас было немагчыма, — вядомыя савецкія публіцысты-аграрнікі Юрый Чарнічэнка і Іван Васільеў у межах дазволенага пастараліся сказаць праўду пра сапраўдныя прычыны гібельнага стану вёскі. Сутнасць іх высноў зводзілася да таго, што не можа быць сапраўдным гаспадаром на зямлі падзёншчык, «временщик», які не прывязаны да канчатковага выніку працы, якому ўсё роўна, што вырасце на гэтай зямлі і якім будзе стан гэтага калгаса заўтра. Псіхалогія «временщика» — «абы дзень да вечара». Ні гэта зямля, ні гэтыя сродкі вытворчасці — не яго ўласнасць. Сабраўшы немудрагелістыя пажыткі, заўтра ён можа апынуцца на другім канцы неабсяжнай краіны, у такім жа калгасе, разлічваючы атрымаць за сваю падзённую працу крыху большы кавалак хлеба і крыху большую міску баланды. Родным сваім ні гэты, ні іншы калгас для яго ніколі не будзе.

З пачатку 90-х і да сённяшніх дзён дзесяць мільёнаў беларусаў аказаліся «временщиками», пазбаўленымі веры, упэўненасці ў будучыні на ўласнай зямлі. Згадаем, як гэтыя апошнія пяць-шэсць гадоў хістала, гайдала з боку ў бок нашу краіну, не даючы ёй узбіцца на нейкую пэўную каляіну.

1990-ы. Пад'ём дэмакратызацыі і галоснасці, нацыянальнага адраджэння. Узнікаюць новыя партыі, адчыняюцца беларускія школы. Пачынае ажыццяўляцца праграма беларусізацыі. Беларусь услед за ўсімі сваімі суседзямі апошняй прымае Дэкларацыю аб незалежнасці. Вецер яўна дзьме ў ветразі тых, хто бачыць Беларусь дэмакратычнай незалежнай дзяржавай, са сваёй мовай, гісторыяй, культурай.

Пачатак 1991-га. Рэферэндум аб захаванні Саюза, на якім большасць грамадзян Беларусі сказалі «так» «абноўленаму саюзу» (хоць мала хто разумеў сутнасць гэтай мудрагелістай гарбачоўскай фармулёўкі). Новаагароўскі працэс. Прызначанае на жнівень падпісанне новага саюзнага дагавора. На кані — яўна тыя, хто не жадае развітвацца з СССР.

Канец 1991-га. Пасля жнівеньскага путчу і крушэння КПСС Савецкі Саюз развалўся, як картачны домік. Белавежскія пагадненні ўзаконілі гэты працэс. Беларусь, як незалежную дзяржаву, у ліку іншых прызнае свет. Зноў акрыяла тая частка грамадства, якая жадала бачыць Беларусь роўнай сярод роўных у Еўропе.

1994—1995 гады. Першы беларускі Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка адлюстроўвае і рэалізуе настроі тых, каго большасць і хто хоча вяртання ў СССР. У краіне паслядоўна скасоўваюцца мытныя межы з Расіяй, заключаецца эканамічны саюз, Расія атрымлівае бясплатны транзіт праз нашу тэрыторыю. На змену гістарычным дзяржаўным сімвалам прыходзяць крыху зменены савецкія. Рускай мове надаецца статус дзяржаўнай — праграма беларусізацыі згортваецца. Трыумфуюць тыя, хто і чуць не жадае ні пра якія незалежнасць і беларускасць.

Здавалася б, апагей гэтага працэсу — пышныя ўрачыстасці ў Крамлі, падпісанне саюзнага дагавора, утварэнне Супольнасці, што больш падабаецца некаторым палітыкам, — Супольнасці Суверэнных Рэспублік (ССР — згадка пра мілую многім сэрцам абрэвіятуру).

Можа, цяпер гайданка, нарэшце, спынілася, і ССР — гэта ўсур'ёз і надоўга? І беларусы (і «незалежнікі», і «саюзнікі») могуць спакойна перавесці дух, не чакаючы новых узрушэнняў? Адны, пераможцы, — пасвяткуюць і супакояцца; другія, пераможаныя, — папратэстуюць і зміраццa, — і ўсе разам возьмуцца за будаўніцтва хоць якога, але ж пэўнага, не часовага жытла?

Але ж не — ужо тройчы скаланаўся Мінск ад шматтысячных шэсцяў і мітынгаў. Грамадства палярызаванае і ўсё больш уваходзіць у рытм гэтых гіганцкіх палітычных ваганняў, рытм якіх зададзены ўсёй апошняй пяцігадовай гісторыяй.

Ні адна, ні другая частка расколатага грамадства пасля ўсяго, што адбывалася і адбываецца на прасторах СНД, не ўпэўнена ў трываласці і даўгавечнасці зменаў. Гэтую няўпэўненасць не толькі не развейвае, але яшчэ больш умацоўвае заключаны дагавор, тэкст якога амаль даслоўна пераказаны газетамі.

Міне няшмат часу, забудуцца пышныя трыумфальныя ўрачыстасці, пакрысе знікнуць з экрана Беларускага тэлебачання святочныя рэляцыі і высакамоўныя інтэрв'ю, — і людзі з пэўным здзіўленнем выявяць, што ССР — гэта зусім не тое, пра што яны настальгічна ўспамінаюць. Яны не будуць выбіраць саюзнага прэзідэнта, ім не будуць плаціць зарплату саюзнымі рублямі. (Ды і сама гэта зарплата наўрад ці прыбавіць у вазе)...

Фармальна Беларусь захоўвае сваю незалежнасць. У гэтым сэнсе, зусім магчыма, многія адчуюць сябе падманутымі, іншыя — набудуць надзею. Але гайданка не спыніцца, бо ўжо цяпер аб'яўлена, што ССР — гэта толькі «пераходны перыяд». Але — куды вядзе гэты пераход? Дагавор адказу на гэта пытанне не дае.

Асабіста ў мяне ўзнікае ўражанне, што ўсіх нас зноў пакінулі ў чыгуначным пераходзе. І зноў даводзіцца толькі гадаць, на які перон, да якога цягніка мы ўрэшце выйдзем і дзе апынёмся праз год, праз два... У гэтым пераходзе, на чамаданах можна мітынгаваць, спрачацца, пляскаць у ладкі, абурацца... Паўнацэнна жыць у пераходзе немагчыма.

**Валянцін ЖДАНКО.**

# Неабходна дабіцца, каб за мяжой разглядалі Беларусь...

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.)

надзейнага партнёра, што паспрыяе адкрыццю новых крыніц інвестыцый у нацыянальную эканоміку.

**— Як, на вашу думку, павінна выглядаць сістэма, якая дазволіць дасягнуць усіх пастаўленых мэтаў па павышэнню міжнароднага аўтарытэту Беларусі?**

— Плануецца, што асновай для стварэння такой сістэмы і стане распрацоўваемы праект дзяржаўнай праграмы знешнепалітычнай інфармацыі і прапаганды на перыяд да 2000 года.

У састаў міжведамаснай камісіі, якая зоймецца распрацоўкай і каардынацыяй выканання праграмы, увайшлі кіраўнікі многіх міністэрстваў. У прыватнасці, замежных спраў, знешніх эканамічных сувязей, эканомікі, фінансаў, сувязі і інфарматыкі, прамысловасці... Туды ўвайшлі таксама прадстаўнікі Акадэміі навук рэспублікі, Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі, Беларускага тэлеграфнага агенцтва, гандлёва-прамысловай палаты...

Членам камісіі трэба будзе папрацаваць у напрамках па стварэнню сістэмы аператыўнага распаўсюджвання за мяжой вычарпальнай і аб'ектыўнай інфармацыі аб дзейнасці і важнейшых знешнепалітычных рашэннях, што прымаюцца Прэзідэнтам, Кабінетам Міністраў, Вярхоўным Саветам.

**— Правядзенне якіх канкрэтна мерапрыемстваў мяркуецца ў мэтах фарміравання ў сусветнай грамадскасці пазітыўнага іміджа Беларусі?**

— Перш за ўсё мяркуецца на базе Беларускага інстытута інфармацыі і прагнозу пры Адміністрацыі Прэзідэнта стварыць дзяржаўны інфармацыйны цэнтр, які зоймецца зборам, перакладам на замежныя мовы і падрыхтоўкай да выдання грамадска-палітычнай інфармацыі аб рэспубліцы. Прапануецца арганізаваць выпуск штодзённага спецыяльнага інфармацыйнага бюлетэня аб асноўных падзеях у рэспубліцы для наступнага яе распаўсюджвання нашымі замежнымі ўстановамі ў краінах знаходжання.

Думаецца, будзе нялішнім стварэнне на базе Нацыянальнага прэс-цэнтра пастаянна дзеючага клуба прэс-аташэ пасольстваў, акрэдытаваных у Мінску.

Па сілах будзе калектыву часопіса «Беларусь» забяспечыць выпуск перыядычнага выдання на рускай і англійскай мовах, арыентаванага як на замежнага чытача, так і на суайчыннікаў, што жывуць за мяжой.

Сваю нішу на рынку сродкаў масавай інфармацыі можа заняць і прапануемы да выдання часопіс «Актуальныя праблемы міжнароднага права і міжнародных адносінаў», у якім прадугледжваецца пастаяннае размяшчэнне пазітыўнай інфармацыі аб знешняй палітыцы і дзейнасці кіраўніцтва дзяржавы.

Заслугоўвае таксама ўвагі ініцыятыва аб выданні на базе штотыднёвіка — газеты «7 дней» 24-старонкавай газеты з дадатковым тыражом не менш як 10 тысяч экземпляраў для яе распаўсюджвання за мяжой.

Не абыдзены ўвагай і электронныя сродкі масавай інфармацыі рэспублікі. У праекце праграмы знешнепалітычнай прапаганды Беларусі прадугледжваецца стварэнне сеткі тэле- і радыёвяшчання на замежныя краіны пры Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі. Для пастаяннага вяшчання на дзяржавы—члены СНД прапануецца арганізаваць радыёстанцыю «Эхо Беларуси». Для грамадзян суседніх з рэспублікай дзяржаў, якія не з'яўляюцца членамі Садружнасці — Польшчы, Літвы, Латвіі, прапануецца арганізаваць праграмы тэлерадыёвяшчання на дзяржаўных мовах гэтых краін.

**— Ці прадугледжваюцца іншыя шляхі распаўсюджвання палітычнай інфармацыі аб жыцці рэспублікі, дзейнасці яе ўрада?**

— Ёсць прапанова ў першым паўгоддзі 1996 года падключыць Адміністрацыю Прэзідэнта, апарат Кабінета Міністраў, Вярхоўнага Савета да міжнароднай камп'ютэрнай сеткі «Інтэрнет», а таксама стварыць міжведамасную аб'яднаную электронную пошту, якая аб'яднае ўсе рэспубліканскія міністэрствы і ведамствы, адміністрацыі абласцей з вышэйшымі органамі выканаўчай, заканадаўчай і судовай уладаў.

Выношваюцца таксама планы стварэння пры Міністэрстве замежных спраў дзяржаўнай дыпкур'ерскай службы, якая таксама магла б паспрыяць распаўсюджванню інфармацыі за мяжой.

Але не варта забываць пра тых, хто свядома дапускае распаўсюджванне ў замежжы заведама лжывай інфармацыі аб дзейнасці Прэзідэнта, урада, знешняй і ўнутранай палітыцы Беларусі. У адносінах да падобных недзяржаўных і няўрадавых арганізацый мэтазгодна разгледзець пытанне аб прыпыненні іх дзейнасці.

**— Замежных партнёраў могуць цікавіць не толькі падрабязнасці палітычнага жыцця Беларусі, але і асаблівасці жыцця эканамічнага.**

— З гэтай мэтай міністэрствам знешніх эканамічных сувязей, эканомікі і фінансаў разам з Нацыянальным банкам плануецца даручыць распрацаваць і ўнесці на разгляд урада палажэнне аб парадку збору і распаўсюджвання за мяжой спецыялізаваных маркетынгавых і рэкламных матэрыялаў аб прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў, інфармацыі аб інвестыцыйным клімаце ў Беларусі, ходзе эканамічных рэформаў, экспартных магчымасцях беларускіх таваравытворцаў. У гэтым плане прывабнай бачыцца і ідэя аб стварэнні пры Кабінеце Міністраў нацыянальнага цэнтра экспартнага развіцця і замежных інвестыцый, мэтай якога павінна стаць забеспячэнне замежных інвестараў і прадпрымальнікаў інфармацыяй аб умовах бізнесу ў рэспубліцы і кан'юнктуры беларускага рынку.

Патэнцыяльныя замежныя інвестары будуць таксама азнаёмлены з перспектыўным планам правядзення ў Беларусі міжнародных тэндэраў па продажы дзяржаўных прадпрыемстваў з выкарыстаннем магчымасцей фінансавання іх правядзення еўрапейскім супольніцтвам, Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця.

У планах камісіі таксама правядзенне пад патранажам дзяржавы масіраванай рэкламнай кампаніі лепшых узораў айчыннай прадукцыі ў найбольш вядомых замежных выданнях, такіх, як «Экономист», «Тайм», «Франкфуртэр альгемайне», «Шпігель», «Монд», «Вашынгтон пост».

Для папулярызацыі прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў варта падумаць і аб удзеле рэспублікі на належным узроўні ў такіх міжнародных выстаўках і кірмашах, як выстаўка новых матэрыялаў і тэхналогій, сродкаў аховы навакольнага асяроддзя ў Хайдарабадзе (Індыя). Даволі прадстаўнічай у гэтым годзе стане выстаўка-продаж беларускіх тавараў у Мурманску. Хочацца спадзявацца, што не пройдуць незаўважанымі Дні беларускай эканомікі на Гановерскім кірмашы, удзел у якім у канцы красавіка мае намер узяць і Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка. У гэтым годзе прадукцыя беларускіх прадпрыемстваў будзе прадстаўлена на міжнароднай выстаўцы тэкстыльных вырабаў «Інтэрштоф» у Лейпцыгу (ФРГ) і прамысловай выстаўцы ў Базелі (Швейцарыя).

**— У мэтах знешнепалітычнай прапаганды нельга абысці ўвагай развіццё ў рэспубліцы замежнага турызму і ўдзел беларускіх спартсменаў у міжнародных спаборніцтвах.**

— Маеце рацыю. З улікам прыняцця новай сімволікі выношваюцца планы падрыхтаваць да друку і аператыўна выдаць на некалькіх найбольш распаўсюджаных замежных мовах геаграфічную карту рэспублікі, карту-схему асноўных турыстычных маршрутаў, а таксама каталог асноўных турыстычных фірмаў Беларусі і даведнік па сервіснаму абслугоўванню турыстаў. У гэтым плане зусім апраўданым бачыцца прапанова аб прадастаўленні падатковых ільгот суб'ектам гаспадарання рэспублікі, якія спецыялізуюцца на прыцягненні замежных турыстаў у Беларусь.

Неабходна забяспечыць паўнацэнны ўдзел беларускай нацыянальнай зборнай у летніх Алімпійскіх гульнях у Атланце.

Не можа застацца без увагі і прапаганда дасягненняў беларускага народа ў галіне культуры. З гэтай мэтай міжведамасная камісія мае намер выступіць з ініцыятывай аб адкрыцці ў адведзены да 2000 года перыяд беларускіх культурных цэнтраў у дзяржавах Садружнасці. Больш таго, прапрацоўваюцца магчымасці стварэння дагаворна-прававой базы і неабходных матэрыяльна-тэхнічных умоў для адкрыцця цэнтраў беларускай культуры ў Лондане, Празе, Парыжы, Вашынгтоне, Бруселі.

## Алена Рыгораўна МАЗАНІК

Пасля цяжкай і працяглай хваробы на 83-м годзе жыцця памерла нацыянальная гераіня беларускага народа, актыўная ўдзельніца партызанскага руху, Герой Савецкага Саюза Алена Рыгораўна Мазанік.

А. Р. Мазанік нарадзілася 22 сакавіка 1914 года ў в. Паддзягцерня Ігуменскага павета Мінскай губерні ў сялянскай сям'і. У гады Вялікай Айчыннай вайны была актыўнай удзельніцай Мінскага падполля. Па заданню кіраўніцтва партызанскага атрада яна прывяла ў выкананне смяротны прыгавор кату беларускага народа, генеральнаму камісару Беларусі Вільгельму Кубэ. 22 верасня 1943 года магнітнай мінай гітлераўскі стаўленнік быў знішчаны.

Радзіма высока ацаніла подзвіг маладой партызанкі. Ёй было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны Алена Рыгораўна закончыла Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КПБ, Мінскі педагагічны інстытут імя М. Горкага.

Працавала ў Міністэрстве дзяржкантролю БССР, затым намеснікам дырэктара Фундаментальнай бібліятэкі Акадэміі навук БССР. Усе гады А. Р. Мазанік прымала самы актыўны ўдзел у грамадскім жыцці рэспублікі, патрыятычным выхаванні моладзі.

За вялікія заслугі была ўзнагароджана ордэнам Леніна, ордэнам Вялікай Айчыннай вайны І ступені. Ёй было таксама прысвоена званне «Заслужаны работнік культуры БССР».

Жыццё А. Р. Мазанік — гэта частка гісторыі Рэспублікі Беларусь і беларускага народа. Але час бярэ сваё. Пакідаюць жыццё людзі ваеннага пакалення, якія так многа зрабілі для Перамогі над фашызмам у гады Вялікай Айчыннай вайны.

Светлая памяць аб Алене Рыгораўне Мазанік назаўсёды захаваецца ў нашых сэрцах.

**А. Р. Лукашэнка, С. Г. Шарэцкі, М. М. Чыгір, М. У. Мяснікові́ч, У. В. Русакевіч, У. В. Ярмошын, В. І. Козак, А. Н. Новікаў, В. Н. Новікаў, Н. І. Абядняк, В. І. Сянчылін, А. Г. Слука, О. В. Яцкевіч, Н. І. Жураўлёў.**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, толькі ў крайніх паўднёвых раёнах пройдуць невялікія ападкі. Тэмпература паветра ў Мінску, Гомелі, Магілёве — 7—9, Брэсце — 8—10, Гродне, Віцебску — 9—11 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, месцамі ападкі, пераважна ў выглядзе снегу. Тэмпература 11-га ўначы — мінус 4 — плюс 1, удзень — 4—9 градусаў цяпла; 12-га ўначы — 2—7 градусаў марозу, удзень — 3—6 градусаў цяпла.

### МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 10 КРАСАВІКА

Надвор'е будзе вызначацца полем павышанага атмасфернага ціску. Утрыманне кіслароду ў паветры нязначна панізіцца. У такіх умовах у большасці метэазалежных хворых паяўленне выражаных метэапатычных рэакцый малаверагоднае. Магчыма пагаршэнне самаадчування ў асоб, схільных да паніжэння артэрыяльнага ціску. У мэтах прафілактыкі рэкамендуюцца прагулкі па свежым паветры, частыя праветрыванні памяшканняў, прыём лёгкіх танізуючых сродкаў.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

## Дэлегацыя Вярхоўнага Савета Беларусі адбыла ў Маскву

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

з кіраўніцтвам і членамі аграрнай дэпутацкай фракцыі, наведванне аднаго з аграрных прадпрыемстваў Маскоўскай вобласці, сустрэчы з мэрам Масквы Ю. Лужковым, прадстаўнікамі беларускай дыяспары ў Маскве і прэс-канферэнцыя С. Шарэцкага для маскоўскіх журналістаў. Мяркуецца таксама, што С. Шарэцкі сустрэнецца са старшынёй урада РФ Віктарам Чарнамырдзіным і прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным.

У час візіту плануецца падпісаць некалькі міжпарламенцкіх пагадненняў: Пагадненне паміж Федэральным сходам Расійскай Федэрацыі і Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь і Мемарандум аб супрацоўніцтве паміж апаратамі Савета Федэрацыі і Дзяржаўнай думы Федэральнага сходу Расійскай Федэрацыі і Сакратарыятам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## ЧАРНОБЫЛЬСКУЮ БЯДУ ПЕРААДОЛЬВАЦЬ РАЗАМ

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.)

ральнага сходу Расійскай Федэрацыі па справах федэрацыі, Федэральнаму дагавору і рэгіянальнай палітыцы Сяргей Антуф'еў, і намеснік Старшыні Вярхоўнай Рады Украіны Алег Дзёмін, і старшыня міжнароднага фінансавага фонду СНД Гендзь Шапавалаў, які ўручыў кіраўнікам трох «чарнобыльскіх» абласцей Беларусі гарантыйныя пісьмы на атрыманне ад фонду ў якасці дабрачыннай акцыі па 50 тысяч долараў на набыццё лекаў для насельніцтва, і іншыя.

Так, праблемы Чарнобыля ў Беларусі, Расіі і Украіне адны, аднак падыходы да іх вырашэння не ва ўсім і не заўсёды аднолькавыя. І незразумела, напрыклад, чаму самыя жорсткія патрабаванні да чысціні прадуктаў харчавання прад'яўляюцца на Украіне, а менш жорсткія — у Расіі. Невядома таксама, чаму самая нізкая сацыяльная абароненасць насельніцтва, якое пацярпела (прытым у найбольшай ступені) ад Чарнобыля, у нас, у Беларусі. А ўзяць праблемы рэабілітацыі забруджаных зямель, аздараўлення насельніцтва, яго лячэння. І тут, на жаль, розныя падыходы, пры якіх, напрыклад, на Гомельшчыне ўпраўленне аховы здароўя лечыць і корміць хворых у доўг, які складае 180(!) мільярдаў рублёў. Або яшчэ адна цікавая лічба, якую прывёў вышэйпамянёны Алег Дзёмін. За ўвесь час, што прайшоў пасля выбуху Чарнобыльскай АЭС, Украіна атрымала ад Амерыкі (і дзякуй ёй за гэта) гуманітарнай дапамогі на сто мільёнаў долараў, а сама яна расходуе на чарнобыльскія мэты па семсот мільёнаў долараў у год.

Значыць, калі аб'яднаць намаганні трох славянскіх краін на дзяржаўным узроўні і павесці ў напрамку вырашэння чарнобыльскіх праблем адзіную палітыку, як гэта было да развалу Савецкага Саюза, можна быць упэўненымі: мэтанакіраваная работа дасць свой плён. А для гэтага парламентарыям трох краін (паездка рабочай групы іх, нагадаем, ажыццяўлялася з адабрэння трох прэзідэнтаў) трэба выпрацаваць адпаведныя дакументы, стварыўшы для гэтага пастаянна дзеючую міжпарламенцкую групу. З такой прапановай удзельнікі выязнога семінара «Праблемы радыяцыйнай бяспекі ў дзяржавах Садружнасці» з Гомеля адбылі ў рэгіёны Расіі, якія таксама пакутуюць ад чарнобыльскай навалы.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## У ГОРАДЗЕ НА НЯВЕ ПРАХОДЗЯЦЬ ДНІ БЕЛАРУСКАГА КІНО

**Пагадненне аб супрацоўніцтве між кінадэпартаментам Пецярбурга і Міністэрствам культуры Беларусі было падпісана яшчэ да ўрадавых дагавораў, і таму Дні беларускага кіно ў горадзе на Няве сталі першым крокам, які стаўся пачаткам аднаўлення культурных сувязей.**

Больш за дзесяць гадоў пецярбуржцы не мелі магчымасці знаёміцца з беларускім кіно. Асобныя стужкі зрэдку траплялі ў кінапракат у 1990-91 гадах, таму гледачоў у кінацэнтры «Ленінград» чакаецца шмат. У саставе дэлегацыі Беларусі — прадстаўнікі Міністэрства культуры рэспублікі, рэжысёры, акцёры. Адкрыліся Дні беларускага кіно фільмам «Сын за бацьку» — гэта рэжысёрскі дэбют вядомага акцёра Мікалая Яроменкі-малодшага. Рэжысёр сам прадставіў сваю карціну пецярбуржцам. Аматары кіно змогуць паглядзець і шмат іншых мастацкіх, дакументальных і мультыплікацыйных фільмаў беларускіх аўтараў. Візіт у адказ пецярбургскіх кінематаграфістаў са сваімі фільмамі, у адпаведнасці з пагадненнем, адбудзецца ў красавіку будучага года.

**Сяргей ПРОТАС.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### АЛЯКСАНДР КВАСЬНЕЎСКІ СУСТРЭЎСЯ З ПРЭЗІДЭНТАМ РАСІІ

Учора ў Крамлі адбылася ўрачыстая цырымонія сустрэчы прэзідэнта Польшчы Аляксандра Квасьнеўскага, які ўпершыню знаходзіцца ў Расіі з афіцыйным візітам, з прэзідэнтам Барысам Ельцыным. Па заканчэнні цырымоніі адбылася размова лідэраў дзяржаў сам-насам, яшчэ праз нейкі час прайшлі расійска-польскія перамовы ў пашыраным саставе. У той жа дзень Аляксандр Квасьнеўскі правёў перамовы з прэм'ер-міністрам Расіі Віктарам Чарнамырдзіным і сустрэўся з шэрагам расійскіх палітыкаў і бізнесменаў.

### А СУДДЗІ ХТО?

Камісія кангрэса, якая праводзіць у Калумбіі расследаванне па абвінавачванню прэзідэнта Агнеста Сампэра ў дачыненні да наркабізнесу і выкарыстання наркадолараў на сваю перадвыбарную кампанію, перапыніла працу. Рашэнне было прынята паводле абвінавачання 12 з 15 членаў камісіі — таксама ў дачыненні да наркабізнесу. У камісіі пераважалі прадстаўнікі ліберальнай партыі Сампэра. Такім чынам, прэзідэнт атрымаў яшчэ адну адтэрміноўку, і верагоднасць суда над ім увогуле невялікая. Кангрэс Калумбіі адзіны, паводле канстытуцыі, орган, які мае права прызначыць расследаванне.

### ВОЙСКІ ВЫЙШЛІ З-ПАД КАНТРОЛЮ

Лідэр чачэнскіх сепаратыстаў Джахар Дудаеў заявіў, што расійскія вайскоўцы і палітыкі, якія працягваюць ваенную кампанію ў Чачні, дыскрэдытуюць Ельцына. У сваім каментарыі журналістам Дудаеў сказаў, што бамбардзіроўка чачэнскіх вёсак пазбаўляе ўсялякіх перспектыў усталявання міру. Карэспандэнт Бі-бі-сі ў Маскве паведаміў, што прэзідэнт Ельцын сам прызнаў факт таго, што некаторыя расійскія падраздзяленні могуць не падпарадкоўвацца ў сваіх дзеяннях афіцыйным загадам з мэтай сабатажу мірных ініцыятыў.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і радыё «101,2»**
**слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Што пагражае ў Кітаі тым, хто парушыць норму, устаноўленую «дзяржаўнай палітыкай у галіне дзетараджэння»? 26-гадовая Ван Янь, якая жыве ў адной з вёсак правінцыі Шэньсі, зусім нічога не хацела парушаць. І раптам перакрыла гэтую самую норму адразу ў чатыры разы: у яе нарадзілася чацвёра блізнят — два хлопчыкі і дзве дзяўчынкі. Прычым сама парушальніца важыць усяго 45 кг пры росце 140 см. У якасці «пакарання» мясцовыя ўлады вырашылі аказаць дапамогу маладой сям'і.

**ІТАР-ТАСС**

Колькі каштуе каханне да вядомай спявачкі Мадонны? 38-гадоваму жыхару Лос-Анжэлеса Роберту Хоскінсу яно абышлося ў 10 гадоў турмы. Ён не толькі ўсяляк праследаваў спявачку, але і пагражаў ёй, заяўляючы, што «альбо Мадонна выйдзе за яго замуж, альбо ён перарэжа ёй глотку ад вуха да вуха». Відаць, імкнучыся ажыццявіць сваю пагрозу, Хоскінс пералез цераз плот яе маёнтка, але целаахоўнік спявачкі адкрыў агонь і параніў яго. Суд Лос-Анжэлеса прыгаварыў закаханага да 10 гадоў турэмнага зняволення.

**ІТАР-ТАСС**




Выпуск № 332

Рубрыку вядзе Мікалай ЧАХОЎСКІ

# ЯК НІ ЎПАРЦІЦЦА ЗІМА, А ЗДУЖАЦЬ ВЯСНУ НЕ Ў СІЛАХ

***Дайце пералік работ, якія трэба весці ў садзе і на агародзе на самым пачатку вясны.***

**Д. Вараб'ёва,** *г. Гомель.*



Правядзём самыя неадкладныя работы, бо як бы ні ўпіралася зіма, а канец яе вельмі блізка. Вызваліце галінкі ягаднікаў ад снегу. Асядаючы, ён можа нарабіць адломаў. Снег пад раслінамі ўтрамбаваць (утаптаць). Таяць будзе больш павольна, вада ўсмокчацца ў раёны залягання каранёў.

Па апошняму снегу з лядком прайсціся па радах суніц. Зняць усё старое і хворае, вынесці і спаліць. Радкі падкарміць комплексным угнаеннем — шклянку на два пагонныя метры.

Мінулагодняе лісце з-пад дрэў сабраць у кучы і знесці ў ямы для кампосту. Абавязкова перасыпаць мачавінай — паўкілаграма на кубічны метр. Мачавіна будзе знішчаць небяспечную паршу і садзейнічаць утварэнню добрага кампосту. Пад усе садовыя культуры ўнесці ўгнаенні. Асабліва паклапаціцца пра азотныя — іх кустам і дрэвам заўсёды не хапае. На дарослае дрэва даць пад рыдлёўку паўкілаграма, пад вішні і слівы — шклянку, пад кусты маліны, парэчак і агрэсту — да паўшклянкі комплексных тукаў. Найлепшы вынік — пад перакопванне. Калі ўносім гной, класці яго па радыусу — бліжэй да канца галінак. На квадратны метр — ад аднаго да двух вёдраў. Закопваць на штык рыдлёўкі. Гной і іншыя ўгнаенні (добры вынік дае попел) загортваць у глебу адразу. Усе дрэвы і кусты апрацаваць спецыяльнымі прэпаратамі супраць грыбковых хвароб і шкоднікаў. Абавязкова апрацаваць вішню супраць кокамікозу («лекі» пытаць у спецыяльных магазінах).

Здараецца, ужо ў другой палове красавіка (як дазваляе глеба) сеюць моркву, радыску, пятрушку, кроп, шпінат, пастарнак, салату, гарох, садзяць цыбулю на пяро, нёдзе нават і бульбу.

Нагадаем, што для нашай справы падыходзіць толькі раяніраванае насенне, праверанае і апрацаванае. Якраз як рэкамендавалі ў брашуры «Сеем!» (выпуск № 16).

Асаблівая ўвага цяплічкам. Іх ачысціць, паправіць жэрдачкі, пабяліць вапнай ці мелам, перакапаць з унясеннем угнаенняў. Можна нацягнуць плёнку, калі збіраецеся гадаваць першы ўраджай салаты, радыскі, кропу, шпінату, цыбулі і г.д. У другой палове мая большасць культур выбраць, а на іх месца высадзіць памідоры, агуркі, перцы.

Колькі ўгнаенняў? Гэта адвечнае пытанне, якое не дае дачніку спакою. На квадратны метр цяпліцы ўнясіце (першая лічба — глеба ўгнойвалася штогод, другая — першы раз): ад 5 да 15 кг перагною ці кампосту, суперфасфату — ад 40 да 70 г, сернакіслага (сульфату) калію — ад 30 да 70 г, попелу — ад паўшклянкі да шклянкі. Усе ўгнаенні закопваюцца на глыбіню залягання каранёў (ад 15 да 25 см).

Абавязкова вынесці з падвалаў і ям (цёплае сонечнае надвор'е) бульбу, якая прызначалася на насенне. Усе аперацыі праводзіць па методыцы, што выкладзена ў выпуску брашуры «Паслёнавыя» (№ 17). Гэта пераборка, замочванне ў вадзе і растворы меднага купарвасу, прарошчванне на рассеяным святле і інш.

# ДЗЕ КУПІЦЬ «ГРАДКІ»?

***Голас у тэлефоннай трубцы быў катэгарычным і патрабавальным: «Чаму няма ў продажы брашуры «Сеем!»? Абышоў каля дзесяці кіёскаў — і ўсё без выніку...»***

**Рыгор Кістоў,** *г. Мінск.*

Рыгор Іванавіч дарэмна абіваў парогі кіёскаў «Белсаюздруку». Па дагавору наша брашура прадавалася толькі да красавіка. Цяпер яе там няма. Праз месяц закончыцца тэрмін рэалізацыі ў Мінску брашуры № 17 — «Паслёнавыя». А дзе можна ўсё ж набыць першы выпуск гэтага года? Пакуль што «Сеем!» ёсць у спецыялізаваным мінскім магазіне «Сельгаскніга» (праспект Скарыны). Зрэшты, у гэтай краме можна набыць і іншыя выданні — кнігі, напрыклад. Адна з іх па пчалярству — замежных аўтараў. Яшчэ — ва ўсіх гандлёвых кропках гарадской сістэмы «Сортнасеннеагародніна» (яны ў розных кутках Мінска), нарэшце, у «Аграхіміку» (Чырваназорная, 8). У гэтых месцах ёсць і іншыя брашуры — ад першай да апошняй.

Але (паўторым гэта не адзін раз) лепш за ўсё аформіць падпіску. У любым паштовым аддзяленні рэспублікі ёсць каталог выданняў. На пятай старонцы значыцца газета «Для Вас» — гэта якраз нашы «градкі». Заплацілі тры тысячы на месяц (на квартал — 9 тысяч) і няма праблем. Тым больш, што тэмы выданняў мы паведамляем загадзя. І ніколі іх не мяняем. Падабаецца — выпісвайце. Гэта найбольш танна.

У мінулым годзе брашурка рассылалася па пошце. Амаль дзве з паловай тысячы дачнікаў і сялян атрымалі каштоўнае выданне. Сёлета мы зноў будзем адпраўляць свае выпускі ўсім жадаючым. Можна заказаць адну брашуру, а можна ўсе чатыры адразу. Калі заказваеце адзін экземпляр, трэба заплаціць 4 тысячы рублёў, два і больш — па 3,5 тысячы за кожны экземпляр. Розніца ў кошце звязана з выдаткамі на заказныя паштовыя адпраўленні і аплату работы людзей, якія будуць займацца гэтай справай.

***Вось пералік выданняў:***

**№ 15 — расказ пра ўгнаенні, насенняводства, як пазбегнуць нітратаў у прадукцыі, кароткія паведамленні пра буракі, капусту, моркву, агуркі і іншыя культуры.**

**№ 16 — «Сеем!» Усё аб падрыхтоўцы насення да сяўбы, дакладная сяўба без прарэджвання, што культуры выносяць з глебы, месячны каляндар маскоўскіх вучоных.**

**№ 17 — «Паслёнавыя». Як атрымаць з соткі 500—700 цэнтнераў бульбы і тону памідораў, што трэба ведаць пра вырошчванне перцаў, фізалісу, баклажанаў, тытуню. Месячны каляндар сяўбы і догляд раслін прафесара Фелікса Вялічкі (Масква), як самому скласці такі каляндар.**

**№ 18 — «Зарубежныя тэхналогіі». Парады даюць амерыканскія, англійскія і чэшскія вучоныя. Каляндар работ дачніка ў маі.**

На пераводзе ў двух месцах — верхняй і ніжняй частках (лепш больш падрабязна і разборліва запаўняць другую (ніжнюю) частку, бо яе атрымлівае рэдакцыя) напісаць свой адрас з індэксам, прозвішча, імя і імя па бацьку, што хочаце набыць (пералік).

**Разборліва пішыце разліковы рахунак і назву банка: г. Мінск, АКБ «Белбізнесбанк», рахунак газеты «Звязда» 3012210270016, код 739.**

**Пераводы адпраўляйце на адрас газеты «Звязда»: 220013, г. Мінск, Б. Хмяльніцкага, 10а.**

Ніякіх дадатковых пісьмаў пісаць не трэба. Як толькі мы атрымаем перавод на дакладна абазначаную суму, вам будуць высланы выданні.

# А МЫЛІЦЫ НЕ ПАДСТАВІЦЕ...

Пайшлі званкі і пісьмы пра расаду, якая падае. Сёння гэта галоўная бяда. Спачатку перчыкі ці памідоры (а пасля капуста) быццам трымаліся бадзёра. Але затым прыпынялі развіццё, усім сваім выглядам паказвалі, што ім дрэнна, нарэшце валіліся на бок. Тут, як кажуць, і мыліцы не падставіш.

Усе без выключэння вопытныя дачнікі ведаюць, што на падаконніку звіла гняздо небяспечная хвароба — кіла. Яна ў зямлі, якраз ля сцяблінак. Разакучце хворую асобіну і ўбачыце бліжэй да каранёў не тоўсценькі кавалачак сцябла (так павінна быць), а нейкую нітачку чорнага ці бурага колеру. Паступленне пажыўных рэчываў ідзе па цэнтру. Па гэтай прычыне расада і не падае адразу, а трымаецца некалькі дзён, нават тыдзень-два. Але сумны фініш непазбежны.

Каб не было хваробы, замежныя спецыялісты рэкамендуюць расадную зямлю прапаліць пры тэмпературы +120 градусаў (глядзіце брашуру «Для вас» № 18). Мы не адзін раз рэкамендавалі наладжваць лазню ў 70 градусаў («Подзвігі Геракла», брашура «Для вас» № 16). Менавіта пры такой тэмпературы пачынаюць гінуць узбуджальнікі злоснай хваробы.

Ці можна што-небудзь палепшыць, калі хвароба стала відавочнай? Безумоўна, можна! На карысць будзе цэлы букет мерапрыемстваў. Самае галоўнае — не трымаць расаду ў холадзе, не паліваць, калі тэмпература вадкасці ніжэй чым +20 градусаў. Лепш за ўсё падагрэць ваду (+25—+30 градусаў). Палiў умераны. Сухая глеба ў верхніх слаях — яшчэ не сігнал для «вадапою». У ёмістасцях для расады знізу зроблены дзірачкі для адтоку вады.

Пры палівах даваць сілкаванне марганцоўкай (слабы малінавы колер) і медным купарвасам (0,5 г на літр гарачай вады). Раствору столькі, колькі расходуецца за адзін раз. Лішак лепш выліць. Да «лекаў» адносіцца і падкормка настоямі прасеянага попелу — лыжка на адзін літр. Попел можна настойваць у запас.

Вельмі добра адчувае сябе кіла, калі расліны загушчаны (перыяд усходаў). З пікіроўкай не марудзіць. Паказаўся сапраўдны лісцік — пачынайце гэтую работу. Ёмістасці абавязкова прагрэць у вадзе. Заўсёды мець пад рукою чыстую добра прагрэтую зямлю. Гэтай зямлёю (можна пілавіннем, рачным пяском) акучыць хворыя расліны як мага вышэй. Пры адпаведных вільготнасці і цяпле ўтвараюцца новыя карані.

Абавязкова прарэджваць (выдаляць слабыя), трымаць як найбольш часу на сонцы. Наша ласкавае сонейка ў такіх умовах — найлепшы лекар.



Трэці лішні?..

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 10 красавіка

### Беларускае тэлебачанне

**9.30** «Вяртанне ў Эдэм». Тэлесерыял. 13-я серыя. **10.25** «Раскажыце казку, доктар». Мультфільмы 1—3-ці. **11.05** «Зорная ростань». Гродзенска-Гомельскі тур. Перадача 14-я. **11.45** Відзьма-нявідзьма. **12.45** «Інспектар Лосеў». Маст. фільм. 2-я серыя. **15.00** Навіны. **15.10** Рэклама. **15.15** «Вікторыя». Маст. фільм. **16.40** «Як нараджаецца музыка?» **17.00** Крэда. **17.20** Госці ў хату. **17.50** Музычны антракт. **18.00** «Страсці па Хармсу». Дак. фільм. **18.25** Эканамікст. **18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.05** «Вяртанне ў Эдэм». Тэлесерыял.14-я серыя. **20.00** «Хто гэта?» Тэлегульня. **20.05** Да 55-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны. «Гарачае лета 41-га». Перадача 3-я. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.30** Хакей. Чэмпіянат свету. Зборная Беларусі — зборная Швейцарыі, 2-гі і 3-ці перыяды. **23.50** «Тэма для аргана». Дак. фільм. **24.00** Навіны. **0.15** Каралеўскае паляванне.

### ГРТ

**10.30** «Адгадай мелодыю». **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Кантакт — дзелавое супрацоўніцтва Садружнасці». **11.50** «Міхайла Ламаносаў». Фільм 2-і. 1-я серыя. **13.02** «Давай сябраваць». Мультфільм. **14.20** «Джымі Суперчарвяк». **14.40** Кактус і Ко. **14.50** До-мі-соль **15.10** Покліч джунгляў. **15.35** «Элен і хлопцы». **16.05** Тэт-а-тэт. **16.30** Сем дзён спорту. **17.20** «Сакрэт трапіканкі». **18.10** Гадзіна пік. **18.35** «Адгадай мелодыю». **19.00** Парыжскія тайны Э.Разанава. Ані Жырардо. **19.45** «Спакойнай ночы, малышы!» **20.00** Час. **20.40** Праграма перадач. **20.45** Прэм'ера Першага канала. А.Таркоўскі. «Страсці па Андрэю». Аўтарская версія фільма «Андрэй Рублёў». **0.35** Музычная праграма MTV. **1.00** «Дні Турбіных». 2-я серыя.

### Канал «Расія»

**14.55** Імперыя гульняў. «Дзяўчаты на снезе». **15.45** Там-там навіны. **16.20** Расія ў асобах. **16.45** «Брэменскія музыканты». Мультсерыял. **17.15** Тэлечасопіс «Здароўе». **17.25** Заставайцеся ў капелюшы. **17.55** Свая гульня. **18.25** «Як жыць будзем?» У перадачы прымае ўдзел старшыня Савета Федэрацыі Я.С.Строеў. **19.35** «Санта-Барбара». **20.30** Сам сабе рэжысёр. **21.05** «Вустрыцы з Лазаны». Крымінальная камедыя. **22.45** Міліцэйская хроніка. **22.55** Гукавая дарожка.





ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100634. Індэкс 63850.
Зак. № 1785.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 8 9 10 11 12
П 1 2 3 5 6 7 8 9 10 11 12